№ 29 (723) 3 жніўня 2011 www.nn.by

незалежная газета

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады



**Сем цікавых фактаў пра Ермакову**

Старонка 4



**Жах: блохі атакавалі Мінск**

Старонка 10

**«Фантан не нясе заклікаў да эратычных дзеянняў»**

Старонка 11



Спорт

## Андрэй Арамнаў: У Беларусі цяжка быць першым

Чаму ён заўжды ўліпае? Інтэрв'ю.

У 2008 годзе ў Пекіне 20-гадовы хлопец з Барысава Андрэй Арамнаў бліскуча выйграў Алімпіяду. Пасля гэтага ў цяжкаатлета нібыта пачалася чорная палаца ў жыцці. Арамнаў трапляў у самыя розныя гісторыі: лавілі п'яным за рулём, дыскваліфікацыя праз марыхуану, пасля — траўмы, а цяпер вось канфлікт з галоўным трэнерам.

З Андрэем мы сустрэліся на базе ў Стайках. Спачатку ён дапамог жонцы данесці пакункі да машыны, а ўжо потым цэлую гадзіну адказваў на пытанні. У гэты час да яго падыходзіў праслаўлены спартыўны доктар Валерый Бялан, які прасіў Арамнава быць асцярожным, бо «ты ў нас адзін такі».

Андрэй жа расказаў чарговую гісторыю, як паслізнуўся ў пад'ездзе на разлітым кефіры.

**Працяг на старонцы 6.**

# «Узяць пад увагу працяглую і дасканалую службу»

Святлану Байкову апраўдалі па чатырох з пяці абвінавачванняў. Але прысудзілі два гады «хатняй хіміі».

Амаль пяць месяцаў пры зачыненых дзвярах у Вярхоўным судзе слухалася крымінальная справа супраць старшай следчай Генеральнай пракуратуры па асабліва важных справах Святланы Байковай.

Байкову арыштавалі 25 лютага 2010 года супрацоўнікі КДБ. Пасля гэтага яна знаходзілася паўгода ў «амерыканцы», а ў мінулым жніўні яе перавялі пад хатні арышт.

Справа Байковай спачатку выявіла процістаянне між КДБ і Генеральнай пракуратурай. Генпракурор Рыгор Васілевіч выносіў пратэст па затрыманні сваёй падначаленай, але суд яго адхіліў. Тады Васілевіч адмовіўся падоўжыць тэрмін утрымання Байковай пад вартай.

Тым не менш, праз нейкі час і генпракурор развёў рукі ўбок, сказаўшы: «Не ідэалізуйце следчага». Ён прызнаў, што ў сваёй працы Байкова часта перавышала службовыя паўнамоцтвы. «Не заўсёды арышты былі абгрунтаванымі і законнымі», — сказаў Васілевіч.

**Працяг на старонцы 8.**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Родныя прынеслі ёй у суд кветкі і марожанае.**

## А вы падпісвайцеся!

Старонка 2.

### У нумары





СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**2 жніўня дэсантнікі адзначылі сваё прафесійнае свята.**

Тэндэнцыі

## Прэс-сакратар МЗС Беларусі Пуціну: Суверэнітэт — не прадмет для дыскусіі

Міністэрства замежных спраў Беларусі не бачыць неабходнасці каментаваць заяву Уладзіміра Пуціна, што прагучала 1 жніўня, заявіў прэс-сакратар знешнепалітычнага ведамства Андрэй Савіных. Аднак ён нагадаў пазіцыю Беларусі: суверэнітэт — не прадмет для дыскусіі.

Выступаючы на маладзёжным форуме «Селігер-2011», прэм'ер-міністр Расіі адказаў на пытанне, ці могуць Расія і Беларусь стаць адным цэлым, як гэта было ў часы СССР: «Гэта магчыма, вельмі пажадана і поўнасцю залежыць — на 100% залежыць — ад волевыяўлення беларускага народа».

У адказ нейкі юнак — прадстаўнік Беларусі — запэўніў, што «народ гэтага хоча». «Тады змагайцеся за гэта», — заклікаў Пуцін.

Ён зазначыў, што ў Беларусі ёсць розныя падыходы да інтэграцыі. «Але пры ўсіх цяжкасцях, якія ўзнікаюць час ад часу, скажам, у сферы эканомікі, у энергетыцы, з газам мы спрачаемся, трэба аддаць належнае Лукашэнку Аляксандру Рыгоравічу, які паслядоўна ідзе па шляху інтэграцыі з Расіяй», — падкрэсліў Пуцін.

Хто быў той юнак з Беларусі, пакуль не высветлена.

**Мікола Бугай**

### А рэйтынгі ўсё падаюць

Толькі 19% жыхароў Расіі лічаць Лукашэнку «паважаным лідарам беларускага народа». Такі вынік апытання, зладжанага расійскім «Левада-цэнтрам». Гэта на 11% менш, чым 4 гады таму.

32% лічаць Лукашэнку «хітрым і каварным палітыкам», а яшчэ 20 — «апошнім дыктатарам Еўропы».

Расійскія даследчыкі мяркуюць, што падзенне папулярнасці Лукашэнкі сярод грамадзян Расіі выклікалі серыял «Хросны бацька», а таксама эканамічныя цяжкасці і палітычныя рэпрэсіі ў Беларусі.

# Віцэ-прэм’ер Румас:

## Цэны ў Беларусі будуць імкнуцца да ўзроўню цэн у Расіі

«Цэны будуць імкнуцца да ўзроўню цэн на знешнім перыметры, і ў першую чаргу ў Расіі», — сказаў намеснік старшыні ўрада Сяргей Румас на пасяджэнні Саўміна 2 жніўня.

Ён нагадаў, што афіцыйны індэкс спажывецкіх цэн дасягнуў найгоршага за апошнія 10 гадоў значэння — 36,2%. «Але назапашаны ў першым паўгоддзі інфляцыйны патэнцыял поўнасцю не рэалізаваны», — папярэдзіў Румас. Гэта значыць, што дэвальвацыя была большай, і цэны яшчэ дагоняць яе тэмп. «Адсюль і працяг росту індэкса спажывецкіх цэн — 103,1% за тры тыдні ліпеня», — падкрэсліў Румас.

Міністр эканомікі Мікалай Снапкоў са свайго боку зазначыў, што «зарплата павінна быць заробленая». Ён меў на ўвазе, што яна не будзе расці хутчэй за прадукцыйнасць працы.

Сяргей Румас б’е трывогу: «У другім паўгоддзі аб’ём спажывання будзе падаць з-за зніжэння рэальных даходаў насельніцтва. У кароткатэрміновай перспектыве структура спажывання зменіцца ў бок харчовых тавараў». У людзей грошай будзе хапаць толькі на прадукты.

Вынікам гэтага будзе скарачэнне аб’ёмаў рэалізацыі прамысловых тавараў на ўнутраным рынку.

**Сяргей Гезгала**



Віцэ-прэм’ер Сяргей Румас б’е трывогу: «У другім паўгоддзі аб’ём спажывання будзе падаць з-за зніжэння рэальных даходаў насельніцтва. У кароткатэрміновай перспектыве структура спажывання зменіцца ў бок харчовых тавараў».

**Што колькі каштуе ў Расіі?**

Расія — краіна гіганцкая, і розніца ў цэнах там вялізная між рэгіёнамі. Яно зразумела: кавуны найтаннейшыя ў Астрахані, алей — у Растове, а імпартныя тавары — у маскоўскіх дыскаўнтарах.

Аднак некаторыя прыклады падаём.

| | у сярэднім у Расіі | расійскіх рублёў | бел. рублёў у пераліку па афіцыйным курсе, 5000 руб. за даляр |
|---|---|---|---|
| Бензін, АІ-92 | 32,8 | | 5950 |
| Дызпаліва | 33,5 | | 6000 |
| Цукар | 38,5 | | 7000 |

# «Наша Ніва» аштрафаваная на 14 000 000 рублёў

29 ліпеня суддзя Гаспадарчага суда г. Мінска Аляксандр Карамышаў разгледзеў адміністрацыйную справу, распачатую ГУУС Мінгарвыканкама супраць «Нашай Нівы», і даў газеце 400 базавых велічынь штрафу (14 мільёнаў рублёў).

Справа была ініцыяваная Міністэрствам інфармацыі, што даслала ў ГУУС Мінгарвыканкама ліст «Аб прыцягненні да адміністратыўнай адказнасці». Тым лістом Мініфармацыі ініцыявала адміністратыўныя справы супраць «Нашай Нівы» і «Народнай волі», абумовіўшы іх тым, што выданні мелі цягам года па два папярэджанні.

Частка 3 артыкула 22.9, паводле якой была распачатая справа, прадугледжвае пакаранне ад 100 да 500 базавых велічыняў (ад 3 500 000 да 17 500 000 рублёў).

Суд быў першым прэцэдэнтам такога спосабу ўздзеяння на незалежную прэсу — яшчэ ніколі раней Мініфармацыі не распачынала справу супраць выданняў «рукамі» міліцыі.

«НН» яшчэ не аспрэчыла папярэджання ад 6 ліпеня, дадзенае «НН» за адсутнасць падпіснога індэкса ў выходных звестках, якое стала фармальнай прычынай для ўзбуджэння справы. Але суддзя, адмовіўся прыпыніць справу на гэтай падставе.

Падчас суда падвіслі ў паветры пытанні пра юрыдычную нестыкоўку між Кодэксам аб адміністратыўных правапарушэннях і Законам «Пра сродкі масавай інфармацыі». Бо Кодэкс прапануе прыцягваць да адказнасці «сродак масавай інфармацыі», які, па сутнасці, з’яўляецца прадуктам, створаным рэдакцыяй. Не было адказу і на пытанне, ці атрымалі папярэджанні дзяржаўныя газеты, якія таксама маюць памылкі ў выходных звестках.

Аргументы прадстаўніка «НН» аб тым, што адсутнасць індэкса ў адным нумары, — гэта малазначнае парушэнне, што закладзены ў Кодэксе памер штрафу — гіганцкі, як на такую віну, і ставіць пад пагрозу дзейнасць Рэдакцыі, што нічые інтарэсы не былі гэтым парушэннем закранутыя, суд прыняў пад увагу. Аднак на рашэнне суддзі яны не паўплывалі.

Прадстаўнік Мініфармацыі, выкліканы судом «для тлу-мачэнняў», акцэнтаваў увагу на тым, што ад 1991 года, за ўвесь час існавання адноўленай «НН», газета атрымала каля дзесяці папярэджанняў. З іх апошнія чатыры — за два мінулыя гады. І, ініцыюючы гэтую справу, Мініфармацыі зважала на гэтую «сістэматычнасць».

Нагадаем, папярэджанні Мініфармацыі ледзь не сталі прычынай закрыцця «НН». Але 12 ліпеня міністэрства нечакана адклікала сваю позву.

Як адзначыла тады кіраўнік Беларускай асацыяцыі журналістаў Жанна Літвіна, на рашэнне Мініфарма мог паўплываць эканамічны крызіс у краіне: «Верагодна, вырашылі, што чарговы брутальны працэс цяпер не патрэбен. Мабыць, на гэта паўплывала прынцыповая пазіцыя Еўрасаюза ў адносінах да беларускіх улад, у прыватнасці, тое, што СМІ працягваюць заставацца для ЕС прыярытэтам».

Нагадаем, 17 чэрвеня, у часе прэс-канферэнцыі з прадстаўнікамі беларускіх СМІ, Аляксандр Лукашэнка, адказваючы на пытанне пра лёс «Нашай Нівы» і «Народнай волі», адзначыў: «Колькі можна? Парушыў закон — адказвай. Ну, можа, ім выставяць нейкі матэрыяльны іск. Хай плацяць...»

«НН» мае дзесяць дзён на абскарджанне рашэння Гаспадарчага суда Мінска.

**Рэд.**

**Суды Мініфармацыі з «НН»**

своеасаблівая лакмусавая паперка стану беларускай судовай сістэмы. Пры канцы 90-х свой першы гаспадарчы суд з Міністэрствам інфармацыі «НН» выйграла. На пачатку 2000-х «НН» суд па папярэджанні пракуратуры за «публікацыю звестак ад імя незарэгістраванай арганізацыі» таксама выйграла, але рашэнне аспрэчыў асабіста генпракурор Шэйман, і калегія Гаспадарчага суда прыняла яго бок. Апошнія ж гады справы супраць «НН» пайшлі чарадою. Без шанцаў на перамогу.

## Сцісла

- **Улады папярэджваюць пра «сур’ёзныя рашэнні» ў фінансавай сферы ў другой палове жніўня.** Аб гэтым ішла размова 1 жніўня ў час даклада прэм’ер-міністра Міхаіла Мясніковіча Аляксандру Лукашэнку. «Плануецца выйсці на прынцыповыя рашэнні», — сакрэтнічае БЕЛТА.
- **БДУ заняў 1208-е месца ў сусветным вебаметрычным рэйтынгу ўніверсітэтаў.** Рэйтынг складаецца з 2004 года іспанскай даследчай групай Laboratorio de Internet. З расійскіх ВНУ толькі дзевяць маюць больш высокія паказчыкі: Маскоўскі, Казанскі, Санкт-Пецярбургскі, Новасібірскі, Томскі і Уральскі ўніверсітэты, Маскоўскі фізіка-тэхнічны ўніверсітэт, а таксама Томскі політэхнічны і Вышэйшая школа эканомікі. Узначальвае рэйтынг Масачусецкі тэхналагічны інстытут, далей ідуць Гарвард і Стэнфард (усе — ЗША).
- **Беларускія ВНУ вызначылі кошт платнага навучання для першага курса.** У БДУ кошт складзе ад 5,4 да 7,5 мільёна, БНТУ — ад 6,2 да 6,4 млн. У БДУІР мінімальны і максімальны кошты розняцца на 600 тыс. — ад 5,4 да 6 млн, у БДЭУ розніца складае менш за 200 тыс. — ад 4,8 да 5 млн.

**СГ**

## Дзе варта быць

### «Гомель» — «Бурсаспор». 4 жніўня

«Гомель» прайграў у першым матчы 3-га кваліфікацыйнага раўнда турэцкаму «Бурсаспору» з лікам 1:2. Аднак на радзіме клуб мае добрыя шанцы на перамогу. Матч пачнецца а 20-й, білеты каштуюць 10—50 тысяч.

## Самае чытанае на nn.by за 27 ліпеня — 2 жніўня

1. Надзея Ермакова. Топ-7 цікавых фактаў пра галоўную банкірку краіны
2. Сенсацыйнае відэа затрымання на акцыі, паездка ў мікрааўтобусе без нумароў і афармлення пратакола
3. Новы альбом Алесі: Гілевіч у трансе
4. Сціплы мільянер Павел Тапузідзіс
5. Чыноўнікі старэюць разам з Лукашэнкам. 60 найвышэйшых урадоўцаў: хто яны?
6. Няўдалая акцыя на Камароўскім рынку
7. Дазвол трэба будзе не толькі на масавыя дзеянні, але і на бяздзеянне
8. Лябедзька адказаў Халіп: Не чапайце АГП рукамі, нават калі Вы іх вымылі з мылам
9. Застрэліўся віцэ-чэмпіён Алімпіяды-2010 па фрыстайле
10. У інтэрнэце з’явіўся траян, арыентаваны толькі на беларускіх карыстальнікаў

# Не забудзьцеся падпісацца!

### Падпіска праз Рэдакцыю

Цана падпіскі праз Рэдакцыю на месяц складае 10000 рублёў.

Мы рэкамендуем падпісвацца праз Рэдакцыю.

Наша сістэма дастаўкі газеты за 4 гады даказала сваю надзейнасць. Мы зможам дастаўляць Вам газету хутчэй або з той жа хуткасцю, што «Белпошта».

**Каб штотыдзень атрымліваць газету, дасылайце адрасы і грошы за газету.**

1) Просім усіх ахвотных падпісацца паведамляць у Рэдакцыю свае адрасы і тэлефоны. Гэта можна зрабіць праз: тэлефоны: (017) 284-73-29, (029) 260-78-32, (029) 618-54-84, e-mail: dastauka@nn.by, паштовы адрас: 220050, г.Мінск, а/с 537.

2) Просім у бланку банкаўскага паведамлення ці паштовага перакazу дакладна і разборліва пазначаць адрас, у тым ліку паштовы індэкс і код пад’езда.

**Банкаўскія рэквізіты:**

ПВУП «Суродзічы», УНП 190 786 828

Аддз. № 539 ААТ «Белінвестбанк», вул. Калектарная, 11, Мінск, код 739

Рахунак атрымальніка: 3012 740 628 011

Від аплаты: За газету «Наша Ніва»

### Падпіска праз «Белпошту»

**Падпіска праз «Белпошту»** на 2-е паўгоддзе:

індывідуальная падпіска (індэкс у каталозе — 63125) — 9210 руб./месяц;

для прадпрыемстваў (індэкс — 631252) — 10626 руб./месяц.

Падпісацца можна на кожнай пошце.

# Творца беларускага эканамічнага цуду Леанід Анфімаў прадказвае хуткае падзенне Амерыкі

**хваліць немцаў, а таксама прапануе шляхі ўдасканалення цуду.**

Былы намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта, а сёння намеснік старшыні Камітэта дзяржкантролю Леанід Анфімаў 27 ліпеня выступіў у газеце «Советская Белоруссия» з праграмным артыкулам «Вытокі і ўрокі».

Чыноўнік дае адказы, чаму сусветная эканоміка аказалася ў крызісе, і прагназуе будучае размеркаванне сілаў у свеце.

«Аналітыкі шукаюць першапрычыну крызісу... у эканоміцы... ставячы ў віну ўсіх бед іпатэчны крызіс у ЗША, спекулятыўныя аперацыі на фондавых біржах, бяздонную трату аграмадных фінансавых рэсурсаў, атрыманых ад продажу энергарэсурсаў. Але гэта стала толькі іскрай», — піша Анфімаў.

«Супярэчнасці паміж самімі Штатамі і інтарэсамі глабальнай эканомікі, менавіта яны ляжаць у аснове крызісных праяваў усёй планетарнай эканомікі, што заражаюцца цяпер», — мяркуе Анфімаў.

Далей прыводзіцца некалькі прыкладаў таго, чаму амерыканская эканоміка сутыкнулася з праблемамі. Анфімаў піша пра ЗША, а чытаецца нібыта пра Беларусь. Асабліва, калі замяніць даляры на рублі.

«Лішак даляравай масы з раўнаважнай сістэмы «Тавар — Грошы — Тавар» выплюхнуў на фінансавыя рынкі... Грандыёзныя будаўнічыя праекты, жыллёвы бум пацягнулі за сабой развіццё спадарожных галін... [Эканоміка] патрабавала пастаяннага падЖыўлення ва ўсё большых памерах той самай валюты», — пішацца ў артыкуле. Няясна, ці аўтар валодае дакладнымі звесткамі пра эмісію даляра, але вынікі эмісіі рубля ўжо цяпер навідавоку.

Для Анфімава відавочна, што ўсе негатыўныя тэндэнцыі ідуць з ЗША. А ў процівагу ставіць кітайскую мадэль.

Рэзервы чыноўнік прапаноўвае шукаць у «Афрыцы, Індыі, Пакістане, Афганістане, Лацінскай Амерыцы. Менавіта праз актывізацыю попыту там змогуць забяспечыць як мінімум на сто гадоў дынамічны эканамічны рост ва ўсім свеце».

Крытыкуючы Амерыку, аўтар тым не менш знаходзіць добрыя словы для немцаў: «нацыя, якая ўмее не толькі працаваць, але і думаць на трыццаць хадоў наперад».

Усё, за што ён хваліць немцаў, уласціва і амерыканцам. Гэтая нацыя стварыла механізмы, унікальна спрыяльныя інавацыям і вынаходніцтву. Гэта краіна, якая шляхам дэмакратычнай канкурэнцыі на ўсіх узроўнях гадуе эліту, здольную «думаць наперад». Справа не ў генах ці хітрасці, а ў механізме сталага спаборніцтва і адбору. Але галоўнае, у масе сваёй, — гэта надзвычай працавіты народ. Напрыклад, адпачынкі ў ЗША складаюць 5–10 дзён, і гэта пры ўмове, што ты адпрацаваў не менш за пяць гадоў.

Амерыканскі даляр таксама стаў сусветнай валютай не ў выніку нейкай масонскай змовы, а з прычыны высокай эфектыўнасці амерыканскай эканомікі, якая доўгі час дамінавала ў свеце і дагэтуль застаецца найбольшай.

Так, немцы шмат у чым падобныя да амерыканцаў у сваім стаўленні да працы. Пенсійны ўзрост у Германіі вось-вось падымуць да 67 гадоў з 65. Ці могуць пахваліцца такімі смелымі, але непазбежнымі рашэннямі мінскія папулісты?



**Леанід Анфімаў**

нарадзіўся ў 1954 у вёсцы Сіма Юр'еў-Польскага раёна Уладзімірскай вобласці (Расія).

Скончыў Беларускі політэхнічны інстытут (1977), Наргас (1988). Працаваў інструктарам прамыслова-транспартнага аддзела Заводскага райкама КПБ, генеральным дырэктарам вытворчага аб'яднання «Дызайн». З 1991 па 2001 працаваў у Мінгарвыканкаме. Потым сыходзіў у КДК, пасля чаго зноў вярнуўся ў Мінгарвыканкам. З красавіка 2006 — намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта. У снежні 2010 стаў намеснікам старшыні КДК.

Ідэалагічная зададзенасць Анфімава найбольш выяўляецца ў гэтай недаацэнцы амерыканцаў. Так яго навучылі ў 70-я: сацыялізм пераможа капіталізм, бо так напісаў Маркс.

Анфімаў параўноўвае ЗША з Рымскай імперыяй, Персіяй, Залатой Ардой, Аўстра-Венгрыяй, Вялікабрытаніяй пачатку XX ст. Пра СССР і сваю радзіму, Расію, ён сціпла змоўчвае.

Ён прыходзіць да высновы, што «звяржэнне ЗША з вяршыні сусветнага палітычнага Алімпа прадвырашана аб'ектыўным ходам сусветнай гісторыі».

Напрыканцы артыкула Анфімаў робіць не зусім ясную рэпліку. «Можа, не з «іншадумствам» ваяваць, а там пашукаць месца для прыкладання намаганняў». Магчыма, яна скіравана Еўрасаюзу.

Анфімаў — гэта не апошні чалавек у беларускай вертыкалі. Кажуць, што менавіта з ім любіў вудзіць рыбу Аляксандр Лукашэнка. Працуючы ў Адміністрацыі прэзідэнта, ён меў уплыў на прыняцце многіх рашэнняў. Менавіта ён быў аўтарам эканамічнай палітыкі беларускіх уладаў у 2006—2010.

**Зміцер Панкавец**

# Козік прапануе даць Лукашэнку Нобелеўскую прэмію

**у галіне эканомікі.**

Старшыня Федэрацыі праф-саюзаў Беларусі Леанід Козік мяркуе, што «ідэя Аляксандра Лукашэнкі аб неабходнасці пабудовы сацыяльна арыентаванай дзяржавы» заслугоўвае Нобелеўскай прэміі ў галіне эканомікі.

Ідэя Аляксандра Лукашэнкі аб неабходнасці пабудовы сацыяльна арыентаванай дзяржавы ўяўляе сабой ідэю «сусветнага значэння, новае слова ў тэорыі развіцця грамадства і дзяржавы», — лічыць Козік.

Для пераходу да такога дзяржаўнага ладу, на думку кіраўніка ФПБ, Беларусі трэба «правільна вызначыць прыярытэты, знайсці практычныя шляхі вырашэння праблем, якія ўзнікаюць пры пабудове грамадства з сацыяльна арыентаванай эканомікай, перамагчы ўнутраную карупцыю, разгільдзяйства, разбазарванне наяўных рэсурсаў, абстрагавацца ад руціны мінулага».

**Сяргей Гезгала**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Ахоўнік Камароўкі і супрацоўнік спецслужб пільнуюць незадаволеных. Пратэстоўцы заклікалі сабрацца там у сераду 27 ліпеня, але амаль ніхто не адгукнуўся на заклік.**

# Дазвол стане патрэбны не толькі на дзеянне, але і на бяздзеянне

**Савет Міністраў падрыхтаваў праект змяненняў і дапаўненняў у Закон «Аб масавых мерапрыемствах».**

Дэманстрацыя 19 снежня 2010 года і маўклівыя пратэсты па серадах напалохалі лукашэнкаўцаў. Саўмін выйшаў з ініцыятывай змен у Закон аб масавых акцыях. Ён і раней быў драконаўскі, даваў магчымасць забараніць любы грамадскі сход. Цяпер жа ён дапоўніўся і зусім абсурднымі прапановамі.

Саўмін прапануе атрымліваць дазвол «на масавую прысутнасць грамадзян у загадзя вызначаным грамадскім месцы (у тым ліку пад адкрытым небам) і пэўны час для здзяйснення загадзя вызначаных дзеянняў ці бяздзеяння, арганізаваную (у тым ліку праз глабальную камп'ютарную сетку Інтэрнэт або іншыя інфармацыйныя сеткі) для публічнага выказвання сваіх грамадска-палітычных настрояў або пратэсту».

Змяненні, імаверна, рыхтавала Міністэрства юстыцыі. Пры міністру Галаванаву яно пачало іграць асаблівую ролю ў наступе на правы і свабоды грамадзян.

**СГ**

# Дзіянаў: Дзесьці нашы ідэі былі максімалісцкімі

**Аўтар ідэі маўклівых пратэстаў звярнуўся з просьбай аб дапамозе.**

Вячаслаў Дзіянаў у адкрытым лісце прызнае, што акцыі зайшлі ў тупік, і прапануе стварыць раду з палітыкаў і аналітыкаў.

«Цяжка гэта прызнаваць, але мы імкнёмся быць сумленнымі адзін з адным. Мы імкнуліся зрабіць усё, каб аб'яднаць беларускае грамадства, але не ўлічвалі важны фактар — нам не хапала досведу, дзесьці нашы ідэі былі максімалісцкімі. Ад гэтага мы сутыкнуліся з шэрагам праблем», — прызнае хлопец.

«Я не лідар, — піша Дзіянаў. — Мне не хапае ні палітычнага вопыту, ні асабістых якасцяў, ні аўтарытэту ў Беларусі. Так, і маё месцазнаходжанне не дазваляе сказаць, што я разам з тымі людзьмі, якія выходзяць на плошчу. Я ўсё гэта разумею і прызнаю. Прапаноў паступала шмат, але я бачыў у іх або пагрозу, або няправільнасць меркаванняў. Гэта мая памылка, маё суб'ектыўнае неразуменне ўсёй карціны таго, што адбываецца. Адсюль з'явіліся асабістыя крыўды на мяне: шуто са мной не дамовіцца, што я раблю гэта толькі дзеля асабістай выгады. Я прызнаю свае памылкі і памылкі нашай групы».

«Трэба шукаць выйсце, бо ідэя жывая. Сацыяльныя сеткі — гэта сувязь з людзьмі, гэта магчымасць быць пачутым і гэта адзін з механізмаў арганізацыі і правядзення акцый пратэсту. Пакуль ідэя жывая і не забытая, трэба зрабіць усё магчымае, каб яна не згасла, каб тыя людзі, якія паверылі, што можна перамагчы гэтую цемру, былі разам», — пішацца ў звароце.

Цяпер Вячаслаў Дзіянаў прапаноўвае «сфармаваць раду «з палітыкаў, аналітыкаў, палітолагаў, вядомых асоб: давайце разам вырашым, што рабіць людзям, якія пратэсты арганізоўваць, куды далей рухацца». Дзіянаў прапаноўвае абмяркоўваць пытанні праз скайп раз на тыдзень.

Па-другое, ён абяцае, што «аўтарытэтныя людзі будуць дададзеныя ў кіраўніцтва групы». Свае прапановы ён просіць скідваць на электронны адрас: revolutionbelarus@gmail.com.

Акцыі ў рамках «Рэвалюцыі праз сацыяльную сетку» праходзілі штосераду ад 1 чэрвеня. Яшчэ адна акцыя адбылася 3 ліпеня. Найбольшы размах быў 22 чэрвеня, калі ў Мінску сабралася каля некалькі тысяч, а ў некаторых абласных цэнтрах — да тысячы чалавек. Пасля ўжывання сілы і арыштаў акцыі сталі мізарнець.

**ЗП**

# Нацбанк у жаночых руках

**Кіраўніцай галоўнага банка краіны стала колішняя кіраўніца шклоўскай ашчадкасы Надзея Ермакова.**



Замена Пятру Пракаповічу знайшлася даволі хутка. 27 ліпеня выканаўца абавязкаў старшыні Нацбанка Юрый Алымаў вярнуўся на пасаду першага намесніка, а Аляксандр Лукашэнка абвесціў імя новай кіраўніцы. Ёй стала старшыня праўлення «Беларусбанка» Надзея Ермакова.

Першыя ж заявы банкіркі даюць добрае разуменне, якога курса будзе прытрымлівацца Нацбанк. «Курс 5000 рублёў за даляр адлюстроўвае рэальны ўзровень і не стрымліваецца адміністрацыйнымі метадамі», — перадусім сказала Ермакова. На наступны дзень яна паўтарыла лукашэнкаўскую рыторыку, абвінаваціўшы ў крызісе саміх беларусаў: «У многіх краінах валюта прадаецца несвабодна, але там эканоміка развіваецца і людзі жывуць, — мяркуе яна. — Не зусім правільна, каб у нас валюта ляжала ў кішэні. Рубля няма, хлеба не можам купіць, таму што беражом у кішэні $15–20».

Фінансісты ўспрынялі прызначэнне Ермаковай са скепсісам. «Гэты чалавек не займаўся макраэканомікай, — сказаў Станіслаў Багданкевіч у інтэрв'ю БелаПАН. — А старшыня Нацбанка — гэта найперш макраэканаміст, які глыбока ведае сутнасць грошай, валодае пытаннямі рэгулявання эканамічнымі, а не адміністрацыйнымі метадамі».

Падобныя думкі мае і незалежны эканаміст Сяргей Чалы. «Гэта выбар не на карысць таго, што трэба штосьці рабіць, а на карысць таго, што рабіць нічога не трэба», — лічыць ён.

Тым не менш, прызначэнне Надзеі Ермаковай — добрая нагода ўзгадаць некалькі цікавых фактаў з біяграфіі адной з найтыповейшых прадстаўніц эпохі лукашэнкаўскіх чыноўніц.

### 1. Самая ўсходняя беларуска з чыноўнікаў

Пачнём з месца нараджэння. Надзея Ермакова паходзіць з сям'і калгаснікаў з вёскі Разальмаў, што на Хоцімшчыне. Гэта самы ўсходні край Беларусі. Дарэчы, банкірцы цяпер 58 гадоў.

### 2. Пінска-мінская адукацыя

У 1971 годзе Надзея закончыла Пінскі ўлікова-крэдытны тэхнікум, а праз сем гадоў атрымала і вышэйшую адукацыю ў Беларускім дзяржаўным інстытуце народнай гаспадаркі імя Куйбышава (цяпер БДЭУ). Праўда, завочна.

### 3. Шклоўскія ідуць!

Надзея Ермакова — адна з найтыповейшых прадстаўніц лукашэнкаўскіх чыноўнікаў, якія трапілі з гразі ў князі. Папрацаваўшы адзін год (у 1983-м) кіраўніцай шклоўскай ашчадкасы, яна пайшла на павышэнне, стаўшы намесніцай старшыні мясцовага райвыканкама і кіраўніком фінансавага аддзела. Пасля прыходу да ўлады Аляксандра Лукашэнкі Надзея Ермакова раптоўна трапіла ў кіраўніцтва «Беларусбанка», дзе паднялася з намесніцы кіраўніка да найвышэйшай пасады.

### 4. Другая жанчына — старшыня Нацбанка

Ермакова стала другой жанчынай у Беларусі, якая ўзначаліла Нацыянальны банк. Першай была Тамара Віннікава, якая прыйшла на змену Станіславу Багданкевічу, што падаў у адстаўку. Але беларусам Віннікава запомнілася перадусім не сваёй фінансавай дзейнасцю, а таямнічымі ўцёкамі з-пад хатняга арышту ў Брытанію.

### 5. Галоўная феміністка Беларусі

Новая кіраўніца Нацбанка вось ужо дванаццаць гадоў з'яўляецца заадно і старшынёй Саюза беларускіх жанчын.

### 6. Нешчаслівыя шлюбы

Надзея Ермакова была ў шлюбе двойчы, але абедзве спробы цяжка назваць шчаслівымі. Ад першага мужа Надзея была вымушана ўцячы з Хоцімска ў Кіраўск, што каля Бабруйска, разам з маленькай дачкой Наташай. Прычына банальная — алкагалізм мужа, які прывёў да яго хуткай смерці...

Яшчэ адна дачка, Юля, нарадзілася ад другога шлюбу. Для мужа Андрэя гэта таксама была другая сям'я. Ён працаваў у сістэме МУС, але, па словах Надзеі Ермаковай, так і не здолеў адаптавацца ў Мінску. У выніку пачаў моцна піць, што прывяло да разводу. Праз пару гадоў пасля вяртання ў сваю першую сям'ю ён памёр.

### 7. «Ну, навошта вам гэты даляр?»

Надзея Ермакова не баіцца выказваць сваё сумбурнае разуменне фінансавага рынку краіны, за што пасля даводзіцца аддуваць іншым чыноўнікам. Самы знакаміты яе выступ — інтэрв'ю тэлеканалу «Расія», у якім Ермакова прызналася, што цалкам абыходзіцца беларускімі рублямі, бо даляр ёй не патрэбны.

Сярод іншых яе «споведзяў» — нечаканая шчырасць у маі 2011-га, калі яна прызналася ў адтоку дэпазітаў з «Беларусбанка» агульным аб'ёмам у трыльён рублёў, чым справакавала яшчэ адну хвалю панікі.

**Ягор Марціновіч**

## Даляр не слухае Ермакову

**Стабільнасць стабільнасцю, а рынкавы курс дарос да 6500 рублёў.**

Прыкладна на такім узроўні — 6500 рублёў за даляр — сыходзяцца «тры кіты», тры галоўныя індыкатары беларускіх фінансаў — валютчыкі, карыстальнікі сайта prokopovi.ch і абменнікі Вільні.

Чорны курс даляра за апошнія некалькі тыдняў незаўважна падрос. Нагадаем, раней сярэдняй кропкай лічылася адзнака 6200 рублёў. Цяпер даляр падаражэў яшчэ на 5%.

Гэта значыцца, што курс куплі даляра складае 6350—6450 рублёў, а курс продажу — 6500—6600 рублёў.

Рэальны курс еўра складае 9200—9300 рублёў, а расійскага рубля — каля 225—230.

Меркаванне Нацбанка, агучанае яшчэ 15 чэрвеня, застаецца нязменным — курс 5000 рублёў за адзін даляр лічыцца «адзіным раўнаважкім на ўсіх сегментах унутранага валютнага рынку». У апошнія дні афіцыйны курс даляра складае 4945 рублёў.

Такім чынам, разрыў паміж афіцыйным і чорным курсам валюты на цяперашні момант складае гіганцкія 30–32%.

**ЯВ**

## Дэфолту ЗША не будзе

**Амерыканскія аблігацыі ў бяспецы: Абама і апазіцыя дасягнулі кампрамісу.**

Прэзідэнт ЗША Барак Абама абвесціў увечары ў нядзелю аб дасягненні кампрамісу з рэспубліканцамі ў кангрэсе. Столь дзяржаўнага доўгу будзе ўзнята, што прадухіліць дэфолт па абавязацельствах амерыканскага ўрада. Ён мог надысці ўжо 2 жніўня. Адначасова ЗША зменшаць дзяржаўныя расходы.

ЗША маюць гіганцкі замежны доўг, ён складае больш за $14,5 трыльёна, але яго памер абмежаваны заканадаўча. Калі б доўг перайшоў мяжу, ЗША былі б вымушаныя аб'явіць тэхнічны дэфолт. Гэта магло б прывесці да непрадказальных узрушэнняў у сусветнай эканоміцы, накшталт дэпрэсіі 1930-х гадоў.

Апазіцыйныя Абаму рэспубліканцы кантралююць палату прадстаўнікоў. Абама прасіў іх дазволіць падняць ліміт доўгу яшчэ на некалькі трыльёнаў, а ўзамен абяцаў скараціць на $2,3 трыльёна выдаткі бюджэту. І вось нарэшце дамоўленасць была дасягнута.

Старэнне насельніцтва стварае вялізную нагрузку на бюджэты краін Захаду. У рознай ступені праблема дэфіцыту ўласціва таксама краінам Еўропы. Перавага старэйшых людзей сярод выбарцаў стварае праблему для дэмакратычна абраных уладаў. Для вырашэння праблемы дэфіцыту трэба прымаць захады, якія не могуць быць папулярнымі сярод пенсіянераў.

**СГ, ЯВ**

## Пенсіянеры скажуць «дзякуй»

**З 1 жніўня сярэдняя пенсія павялічылася на $13.**

Гуляй, пенсіянер! Прэзідэнцкім указам прадугледжана правесці пераразлік працоўных пенсій у жніўні і лістападзе 2011 года, а таксама павысіць памеры сацыяльных пенсій.

У выніку сярэдняя пенсія вырасце з 669 да 757 тысяч рублёў. Цяпер памер сярэдняй пенсіі будзе раўняцца $153 паводле курса Нацбанка і $116 паводле курса чорнага рынку.

З 1 лістапада 2011 года пераразлік працоўных пенсій будзе праведзены, зыходзячы з сярэдняй зарплаты работнікаў за III квартал гэтага года.

Дадатковыя выдаткі бюджэту да канца года складуць 1,4 трыльёна рублёў, гэта каля $285 мільёнаў па афіцыйным курсе.

**ЯВ**

## Беларусь пазычае яшчэ $300 мільёнаў

**Грошы дае Азербайджан.**

Азербайджан выдзеліць ААТ «Беларуськалій» крэдыт у памеры $300 мільёнаў. У адпаведнасці з пастановай Савета Міністраў, гарантыю пагашэння крэдыту дасць урад Беларусі. Пазыка прызначана «для рэалізацыі інвестыцыйных праектаў і праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 2011–2015 гады».

**ЯВ**

### Сцісла:

• **У Беларусі знайшлі яшчэ трохі нафты.** Радовішчы знаходзяцца ў Акцябрскім раёне Гомельшчыны. Прыток нафты, атрыманы тут, папярэдне ацэньваецца ў 5 кубаметраў у суткі.

• **І газ падаражэў.** З 1 жніўня цана на аўтамабільны звадкаваны газ вырасла на 24%. Максімальная дазволеная цана ўзнятая з 2050 да 2550 рублёў. У красавіку цана на звадкаваны газ ужо ўзрасла на 35%.

• **American Express прыйшла ў Беларусь.** На першым этапе праекта пластыкавыя карткі сусветна вядомай кампаніі American Express, выпушчаныя ў іншых краінах, будуць прымацца да аплаты і ў Беларусі. Выпуск картак у нашай краіне адкладзены на пазнейшы час.

**ЯВ**

# Статкевіч: Дзіму зараз цяжэй за іншых

Нарэшце з'явілася інфармацыя пра палітвязня Змітра Дашкевіча, лідара «Маладога Фронту», які адбывае пакаранне ў Горацкай калоніі і трэці раз запар трапіў у карцар.

Каля месяца ніякіх звестак на свабоду ад Змітра не даходзіла. Начальнік калоніі А.Кавалёў сітуацыю каментаваць адмовіўся, не даўшы адказу нават нявесце Дашкевіча — Настассі Палажанцы. Нядаўні ліст экс-кандыдата ў прэзідэнты Міколы Статкевіча, асуджанага за арганізацыю «масавых беспарадкаў» 19 снежня, нарэшце праліў святло на сітуацыю, якая склалася вакол Горацкай калоніі.



«Дзіму зараз цяжэй за іншых. Яго спрабуюць проста зламаць», — піша Статкевіч.

Наста Палажанка мяркуе, што такое стаўленне да Дашкевіча можа быць вынікам сустрэч адміністрацыі калоніі з палітвязнямі і ціску з мэтай напісання прашэнняў аб памілаванні ці нават аб прадастаўленні палітычнага прытулку. Што магло адбыцца падчас такіх сустрэч, можна толькі здагадвацца.

«Чалавек не вылазіць са штрафнога ізалятара і адначасова да яго не пускаюць адваката, што з'яўляецца грубым парушэннем закона, — кажа Н.Палажанка. — Ёсць небяспека, што яго не хочуць паказваць ці то з-за знешніх прычынаў, ці каб ён не расказаў, што з ім робяць. Відавочна, улады маюць «зуб» на Змітра і спрабуюць адпомсціць, зламаўшы яго».

Дашкевіч асуджаны на два гады калоніі за «злоснае хуліганства». Нібыта ён разам з Эдуардам Лобавым за дзень да выбараў збіў двух мінакоў. На судзе «пацярпелыя» не паказаліся, гучалі толькі іх галасы.

**Зміцер Хведарук**

**«Мы патрабуем спыніць ціск і правакацыі»: стартавала ініцыятыва ў абарону Бандарэнкі, Дашкевіча і Ліхавіда**

Тэкст звароту змешчаны ў фэйсбуку вядомага музыканта і блогера Паўла Аракеляна. Ініцыятары заклікаюць сусветную грамадскасць і беларусаў «не застацца абыякавымі да лёсу палітвязняў у нашай краіне». Яны звяртаюць увагу на цяжкі фізічны стан Змітра Бандарэнкі, якому патрэбная складаная аперацыя на хрыбетніку, і заклікаюць зрабіць усё магчымае, каб вязень атрымаў кваліфікаваную дапамогу пры рэабілітацыі. Таксама аўтары звароту патрабуюць спыніць ціск і правакацыі супраць Змітра Дашкевіча і Мікіты Ліхавіда, «жыццё і здароўе якіх з-за самаўпраўнасці адміністрацый калоній знаходзіцца пад пагрозай». Пад заявай ужо падпісаліся дзясяткі людзей.

# Алену Ліхавід трое сутак трымалі ў карцары

Маці палітзняволенага Мікіты Ліхавіда, Алена, адседзела 10 сутак адміністратыўнага арышту за ўдзел у «акцыі маўклівага пратэсту». Трое з дзесяці сутак яна правяла ў адзіночнай камеры — «адстойніку», як яе называюць на Акрэсціна. За тое, што патрабавала прадугледжанага статутам турмы правятрывання камеры і шпацыру.

«Самае кепскае ў гэтай гісторыі нават не ўмовы ўтрымання, а няўважлівае стаўленне з боку адміністрацыі і ахоўнікаў. Іх раздражнялі пытанні аб выкананні банальных нормаў закона. Паўсюднае хамства. У камеры не хапала паветра, і я прасіла, каб правялі чарговае праветрыванне па графіку ці вывелі на шпацыр. А яны замест гэтага перавялі ўсіх асуджаных у больш утульную камеру, дзе было болей святла і паветра, з-за адсутнасці шкла. А праз 10 хвілін вывелі мяне з камеры і перавялі на першы паверх у «карцар».

Там вокны былі зашклёныя аргшклом, якое наўпрост не прапускае святла, прыбіральня фактычна не функцыянавала. З-за чаго ў камеры смярдзела. Умовы, па словах маці Мікіты Ліхавіда, былі набліжаныя да тых, у якіх зараз утрымліваецца яе сын.

«Пасля пераводу ў «карцар» для сябе вырашыла, што ў іх нічога прасіць не буду. Прынцыпова. Узгадала ліст сына, у якім ён пісаў, што гэтыя ўмовы робяць яго больш падрыхтаваным і загартаваным. І я стала больш вольным і загартаваным чалавекам. Зразумела, што падтрымка і салідарнасць між людзьмі — самае важнае. Яе сілу асабліва ўсведамляеш, калі праходзіш праз такія цяжкія выпрабаванні. Яны хацелі пакінуць мяне ў самоце. Але я не адчувала сябе самотнай, распісваючыся за штодзённыя перадачы, у тым ліку і ад невядомых людзей. Па вызваленні з Акрэсціна адміністрацыя запрасіла наведаць установу праз год, паабяцаўшы збудаваць дворык для шпацыру і пераабсталяваць камеры. Спадзяюся, праз год у гэтых камерах асуджаных за палітыку болей не будзе і на ўласныя вочы прыйдзецца гэты кляты дворык пабачыць выключна па тэлебачанні,» — падсумавала Алена Ліхавід.

**ЗХ**

# Справа заведзеная, а падазраваных няма

У блогера Яўгена Ліпковіча, які судзіўся са старшынёй лукашэнкаўскага Саюза пісьменнікаў Мікалаем Чаргінцом, дома адбыўсяператрус. Нагодай для яго стала заведзеная крымінальная справа па артыкуле 370 КК РБ «Абраза дзяржаўных сімвалаў». У Ліпковіча вынялі хатні камп'ютар.

Як паведаміў сам блогер, ён праходзіць па гэтай справе як сведка і ніякага пратакола з абвінавачаннем яму не прад'яўлялі. Аднак ён не выключае магчымасці, што ў самы апошні дзень перад падачай у суд справу могуць перакваліфікаваць так, што абвінавачаным стане ён. У такім выпадку ў Ліпковіча не будзе часу на азнаямленне з сутнасцю справы і распрацоўку стратэгіі абароны ў судзе.

Таксама Ліпковіча выклікалі на допыт. З блогера ўзялі падпіску аб неразгалошванні сутнасці справы. Адзінае, што ён можа паведаміць, — сутнасць злачынства заключаецца ў змяшчэнні ў яго блогу lipkovich.livejournal.com двух малюнкаў, у якіх органы ўгледзелі знявагу дзяржаўнага сцяга Рэспублікі Беларусь.




Тым часам адвакатка Ліпковіча Дар'я Ліпкіна не прайшла пераатэстацыю ў Міністэрстве юстыцыі. Пакуль ліцэнзіі яе не пазбаўляюць, але блогер не выключае, што гэта можа адбыцца менавіта падчас перакваліфікацыі крымінальнай справы. І ён у выніку застанецца не толькі без часу на падрыхтоўку абароны, але і без самой абароны.

**Міхаліна Дзятлік**

# Па справе кнігара Алеся Яўдахі праходзяць 230 сведак


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Суд скончыцца 12 жніўня. Заснавальніку сэрвісу «Кнігі — поштай» пагражае турма.**

Працэс распачаўся 28 ліпеня ў судзе Кастрычніцкага раёна Мінска. Па справе праходзяць каля 230 сведак. У першы дзень на суд з'явіліся толькі два сведкі, яшчэ шэсць прыйшлі на другі дзень суда. Паказанні некаторых з іх не супадалі з матэрыяламі следства. Так, адзін са сведкаў не мог дакладна прыгадаць, праз якую канкрэтна інтэрнэт-краму ён набыў кнігі ў Яўдахі.

Заснавальніка інтэрнэт-сэрвісу «Кнігі — поштай» вінавацяць у незаконнай прадпрымальніцкай дзейнасці паводле ч.1 арт. 233 КК. Найстражэйшае пакаранне па гэтым артыкуле — пазбаўленне свабоды да трох год.

Яўдаха **(на фота)** віны не прызнае. Па яго словах, ён дасылаў беларускамоўную літаратуру і музыку сваім сябрам і знаёмым па ўсёй Беларусі. Алесь сцвярджае, што не меў эканамічнай выгады, бо атрымліваў назад грашовыя перакazы, якія кампенсавалі яму толькі выдаткі на перасылку бандэроляў.

**Сямён Печанко**

# Атрошчанкаў у калоніі заняў 2-е месца на спаборніцтвах па валейболе

Палітвязня наведала яго жонка Дар'я Корсак. Жанчына паведаміла, што Аляксандр моцна схуднеў за кратамі. На адміністрацыю калоніі і іншых вязняў ён не скардзіўся: маўляў, уціску няма.

Яшчэ ў красавіку Аляксандр прасіў перадаць яму футбольныя буцы і пальчаткі. Цяпер ён удзельнічае ў спаборніцтвах сярод каманд калоніі. Але наракае, што няма добрых нападаючых. Разам з тым, толькі скончыліся такія ж спаборніцтвы па валейболе. Каманда Атрошчанкава заняла другое месца.

Прэс-сакратар Саннікава Аляксандр Атрошчанкаў быў асуджаны на 4 гады пазбаўлення волі за ўдзел у так званых масавых беспарадках 19 снежня.

**КМ**

## Сцісла

• **Абвінавачаны па «масавых беспарадках» Святаслаў Барановіч** пачне знаёміцца з матэрыяламі справы на гэтым тыдні. Барановічу выставілі абвінавачванне па ч. 2 артыкула 293 КК «Удзел у масавых беспарадках» 19 снежня. На азнаямленне адводзіцца месяц. Таму суд пачнецца не пазней за верасень.

• **Дні нараджэння за кратамі:** Іллю Васілевічу — 20, Васілю Парфянкову — 30, Міколу Статкевічу — 55. Васілевіч адзначае дзень нараджэння 6 жніўня, Статкевіч — 12 жніўня, Парфянкоў — 30 жніўня. Павіншаваць палітвязняў можна, даслаўшы паштоўку альбо тэлеграму.

• **Кіркевіч робіць будаўнічыя паддоны.** Пасля каранціну ў Навапалацкай калоніі палітвязень прыступіў да працы. Як паведамілі родныя Кіркевіча, з якімі ў яго было спатканне, у палітвязня застаецца мала асабістага часу. А плата за выраб паддонаў — сімвалічная. У Навапалацкай калоніі, акрамя палітвязняў Алеся Кіркевіча і Мікіты Ліхавіда, знаходзіцца і экс-кандыдат у прэзідэнты Андрэй Саннікаў.

**КМ**

# Адрасы палітвязняў

Асуджаныя да пазбаўлення волі па артыкуле «Масавыя беспарадкі» «раз'ехаліся» па калоніях. Толькі адзін **Віталь Мацукевіч** застаецца ў ізалятары (220030 г. Мінск, вул. Валадарскага, 2, СІЗА-1).

**Васіль Парфянкоў:** 211030 Віцебская вобл., г. Орша, вул. Леніна, 195а, папраўчая калонія № 8;

**Аляксандр Атрошчанкаў, Дзмітрый Даронін, Уладзімір Яроменак:** 211300 Віцебская вобл., Віцебскі р-н, п.Віцьба, папраўчая калонія № 3;

**Дзмітрый Новік, Уладзімір Лобан, Алег Гнедчык, Мікола Статкевіч, Аляксандр Класкоўскі:** 213004, Магілёўская вобл., Шклоўскі раён, п. Маладзёжны, папраўчая калонія № 17;

**Аляксандр Малчанаў, Яўген Сакрэт, Дзмітрый Ус, Дзмітрый Буланаў:** 213105 г. Магілёў, Слаўгарадская шаша, п/а Вейна, папраўчая калонія № 15;

**Мікіта Ліхавід, Андрэй Саннікаў, Алесь Кіркевіч:** 211440 Віцебская вобл., г. Навапалацк, вул. Тэхнічная, 8, папраўчая калонія № 10;

**Павал Вінаградаў, Аляксандр Квяткевіч, Фёдар Мірзаянаў:** 225295 Брэсцкая вобл., г. Івацэвічы, «Воўчыя норы», а/с 20, папраўчая калонія № 22;

**Уладзімір Хамічэнка, Алег Федаркевіч, Ілья Васілевіч:** 212030 г. Магілёў, Слаўгарадская шаша, 3-ы км, папраўчая калонія № 19;

**Андрэй Пратасеня, Зміцер Дрозд, Арцём Грыбкоў, Сяргей Казакоў:** 213800 Магілёўская вобл., г. Бабруйск, вул. Сікорскага, 1, папраўчая калонія № 2.

**КМ**

# Андрэй Арамнаў: У Беларусі цяжка быць першым

Працяг са старонкі 1.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## З кайданкамі на штанзе

**«Наша Ніва»: Андрэй, апошняе пра цябе было чуваць, што ты рыхтуешся да Алімпіяды не са зборнай, а па індывідуальным плане. Праўда?**

**Андрэй Арамнаў:** Не. Індывідуальная праграма, калі я цалкам адлучаны ад каманды, калі я харчуюся, як хачу, калі я на зборах, як хачу. Цяпер жа я ў Стайках, харчуюся тым, што замаўляе трэнер, зборы таксама, калі ён захоча.

**«НН»: Што ў цябе за канфлікт з трэнерам Ганчаровым?**

**АА:** Ён не прафесіянал, я гэта бачу. Раней мне здавалася, што ён мяне не любіць і ўсё робіць на злосць, а выйшла, што ён, нічога не ведаючы, спрабаваў мяне прыцiснуць, прыструніць. Няма лепшай абароны, чым атака.

**«НН»: Не спрабавалі неяк улагодзіць канфлікт?**

**АА:** Я шмат разоў спрабаваў з ім паразмаўляць. Апошні раз ён мяне падмануў, калі сказаў, што будзе мяне абараняць ва ўсіх інстанцыях. Папрасіў: давай пачнём трэніравацца і забудзем усе крыўды. Калі прыехаў тагачасны міністр спорту Грыгораў, то Ганчароў нядобра пра мяне адгукаўся, за што мяне пазбавілі прэзідэнцкай стыпендыі на ўвесь 2009. Методыка трэніровак Ганчарова вельмі простая — закрыць спартсмена ў лесе, прыкаваць кайданкамі да штангі. Ён кажа, што незаменных няма. Калі не захочаце трэніравацца вы, то прыйдуць іншыя.

**«НН»: У Ганчарова ж таксама ёсць выхаванцы, якія дасягаюць поспеху.**

**АА:** У яго асабістых выхаванцаў няма. Ён займаецца канфіскацыяй спартсменаў у трэнераў. У Рыбакова першым трэнерам быў не Ганчароў.

## «Інвалідам можна стаць ад аднаго руху»

**«НН»: На Алімпіяду ў Лондан ты едзеш?**

**АА:** Да Алімпіяды я буду рыхтавацца абавязкова. Не ведаю, ці падрыхтуюся да сёлетняга Чэмпіянату свету толкам. Я ведаю, што прафесіяналізму і сілаў у мяне хапае, каб нікому не прайграваць ніколі. Нават фактычна без трэніровак магу быць у «тройцы» на любых спаборніцтвах. У мяне зараз праблемы з харчаваннем.

**«НН»: Што за яны?**

**АА:** У Стайках трэнер не кантралюе харчаванне, што дадуць, тое і добра. Даюць няякаснае мяса. Гаворка ўжо не пра смакавыя якасці, а пра неабходныя вітаміны.

**«НН»: Міністэрства спорту ў ваш канфлікт не ўмешваецца?**

**АА:** Яны, відаць, там думаюць, што я не прафесіянал. Я нядаўна пра сябе прачытаў, што «шукаю сябе, не магу разабрацца ва ўласных думках». Я думаю, што гэта не так. Ганчароў сабраў вакол сябе людзей, якія не вельмі скардзяцца. Калі праводзіць трэніроўку, то кажа: «Добра. Малайчына. Выдатна». Выдатна, але не тэхнічна. Не ўсе спартсмены прыходзяць у зборную з ідэальнай тэхнікай. Цяжкая атлетыка — траўманебяспечны від спорту. Ад аднога руху можна стаць інвалідам. І гэтых спартсменаў трэба вучыць правільнай тэхніцы. Трэба выкарыстоўваць усё цела, трэба, каб нагрузка ішла на ўсю нагу, а не на адны, скажам, меніскі.

## Самазванцы супраць герояў

**«НН»: Андрэй, а каманду не думаў памяняць?**

**АА:** Як памяняць? Краіну?

**«НН»: Мяняюць жа спартсмены.**

**АА:** Гэта амаль здрада. Гэта мая краіна. Тут я нарадзіўся, тут жывуць мае сваякі, жонка. Хутка будуць жыць мае дзеці. Я лічу, што цяпер век прафесіяналізму. Толькі яны будуць выжываць. Ранейшага самацёку, спадзяюся, не будзе. Самазванцаў вылічаць вельмі хутка.

**«НН»: У Беларусі шмат самазванцаў?**

**АА:** Хапае. Самае крыўднае, што іх часам падтрымліваюць. Могуць ахвяраваць героем дзеля самазванца. Гэта самае злачыннае.

**«НН»: Андрэй, у цябе пасля Алімпіяды з'явіліся ворагі?**

**АА:** Пасля таго як я «кінуў» 236 кілаграмаў на Алімпіядзе, у мяне пачаліся адны праблемы. У Беларусі цяжка быць першым. Лепш стаць некалькі разоў другім, трэцім, апошнім, бо такіх любяць і грэюць больш, чым пераможцаў. Калі нешта кажу, то толькі з маральных пабуджэнняў. Іншыя баяцца гаварыць, бо іх могуць выгнаць. Мяне ніхто выгнаць не зможа.

**«НН»:** Дык чаго ты хочаш дабіцца сваімі заявамі па трэнеру?

**АА:** У нас заўсёды былі самыя моцныя людзі, як Курловіч, Тараненка, як я. Цяпер няма вынікаў. Засталіся Арамнаў, Рыбакоў, Стральцоў, калі іх не падтрымаць, то не будзе ў нас медалёў. У Беларусі было столькі запасу, што толькі зараз, праз 16 гадоў сканчваецца. Цяпер адны дзеці засталіся, я адзін з найстарэйшых. Трэнер Тараненкі кажа, што да 25 гадоў увогуле нельга даваць нагрузкі на цела. Здароўе губіцца пацанскае. У нас ламаюцца чалавечыя лёсы. Увесь 2007 год Ганчароў мне казаў: «Я цябе ўсю роўна пастаўлю на месца». А якое маё месца? Я — алімпійскі чэмпіён. Я хачу, каб цяжкая атлетыка была прафесійнай.

## «Я на мяжы»

**«НН»: Ніколі не было думак кінуць цяжкую атлетыку?**

**АА:** Я ўвесь час пра гэта думаю. Я на мяжы таго, што выйграю за Беларусь яшчэ пяць Алімпіяд, ці скажу, што адмаўляюся плаваць у адной лужыне з гэтымі... Але мне хочацца яшчэ патрэніравацца. Мне падабаецца прыходзіць у спортзалу і аддаваць сябе ўсяго трэніроўкам. У мяне ўяўленне пра спорт душэўнае — гэта чэснасць, сіла, дух. А атрымліваецца, што гэта нейкі паўбізнэс. Тут нікому не трэба твой медаль. Трэба маўчаць і зарабляць некаму заробак. Лагун Сярога загінуў, ён таксама быў за мяне... Мы хацелі з ім пасля Чэмпіянату свету вынесці свой пратэст.

**«НН»: Сябраваў з Лагуном?**

**АА:** Так, вельмі класны чалавек быў. Лёс... Загінуў жа праз што? У яго проста лопнула шына. Ззаду ў яго былі добрыя калёсы, а спераду ці грошай пашкадаваў, ці што, купіў «Белшыну». Вось яна і лопнула.

## «Трэба было зняць стрэс»

**«НН»: Андрэй, чаму ты ўліпаеш у розныя гісторыі?**

**АА:** 90% гісторый пра мяне прыдуманыя.

**«НН»: Дык лавілі ж цябе за рулём п'яным.**

**АА:** Ну вось адна гісторыя. Злавілі, забралі правы, цяпер не езджу. Мяне, здаецца, год ужо нідзе не лавілі. Чаму пра гэта ніхто нічога не кажа?

**«НН»: Яшчэ была гісторыя з марыхуанай.**

**АА:** Гэта была курыцельная сумесь. На той час яна была легальнай. Тады пра яе было вельмі мала інфармацыі. Сумесь гэтая ішла як араматызатары паветра. Мне трэба было неяк зняць стрэс.

**«НН»: А што прыдумваюць пра цябе?**

**АА:** Я заўсёды добра сябе паводжу, нармальна, годна. Але пра мяне расказвалі ў Міністэрстве, што я ўвесь час парушаю рэжым, яшчэ і каманду зводжу. Гэта глупства.

**«НН»: Стэрэатып у людзей ужо склаўся, што ты «кепскі хлопец».**

**АА:** Бо мяне ніхто не абараняе. Нават мой трэнер маўчыць. І як мне жыць на гэтым свеце? Мне трэба маральная падтрымка, каб я бачыў, што некаму гэта трэба. Мне за свае грошы трэба трэніравацца? У мяне што, сям'і няма?

## У пазыкавай яме

**«НН»: Жаніўся даўно?**

**АА:** 10 мая. Праз месяц-паўтара ў мяне народзіцца дачка. Цяпер мне трэба неяк выжываць у гэтым жорсткім свеце не толькі для сябе. Жонка таксама з Барысава, з дзяцінства адзін аднаго ведаем.

**«НН»: Мінскую кватэру давёў да ладу?**

**АА:** З 2009 года, калі я атрымліваў 172 тысячы рублёў заробку, у мяне лёгкая пазыкавая яма, з якой вылезці не ўдаецца пакуль. Спартсмены ў Беларусі зусім не абароненыя, ніяк.

**«НН»: І шмат набраў пазыкаў?**

**АА:** Дастаткова. Я трачу ў месяц, можа, 100—200 даляраў. Усё астатняе мне даводзіцца аддаваць.

**«НН»: Сябры пазычалі?**

**АА:** Дык пазычылі, не падарылі ж, аддаваць давядзецца. Няма сяброў. Быў сябра Сяргей Лагун. Цяпер знаёмыя, прыяцелі. Мала людзей, якім можна нешта расказаць.

**«НН»: Не парушаеш цяпер рэжым?**

**АА:** Я яго ніколі не парушаю! Калі парушаю, то я ведаю, як парушыць, каб гэта не перашкодзіла маёй прафесійнай кар'еры. Я ведаю фізіялогію чалавека. Раней я ўсім казаў, каб займаліся спортам, цяпер кажу пра фізкультуру. Я сутыкнуўся з тым, што творыцца ў прафесійным спорце — няма яго ў нас. Ёсць прафесійныя спартсмены, але не спорт.

## «П'ю рэдка»

**«НН»: Цяжкая атлетыка — той від спорту, які найчасцей трапляе ў допінг-скандалы.**

**АА:** Фармакалогію прымаюць усюды, я маю на ўвазе дазволеную. Калі яе не прымаць, то можна проста пасадзіць сэрца. У людзей ёсць імкненне перамагчы, але сродкі выкарыстоўваюць не заўсёды добрыя.

**«НН»: За што футбол так не любіш?**

**АА:** У нас штангісты ў зборнай лепш гуляюць, чым нашы футбалісты. Бегаюць нешта, запінаюцца на полі. Прафесіянальны футбол я бачу на Чэмпіянатах свету. А нашы потым усе ў курылках сядзяць, якія гэта спартсмены. Ніколі не быў на стадыёне ў Барысаве. І не буду. Я ж разбіраюся трохі ў спорце, нецікава мне на іх глядзець.

**«НН»: Падарожнічаць любіш?**

**АА:** Так, люблю. А Ганчароў мяне наўмысна зачыняе ў Стайках.

**«НН»: Дык баіцца, што ў начныя клубы пойдзеш замест трэніровак.**

**АА:** Думаеш, я не хаджу ў начныя клубы? Можа, мне яшчэ з жонкай развесціся? Я нармальны чалавек. Я трэніруюся ўжо 14 гадоў, няўжо не навучыўся з гэтым жыць. І што, я спіртнога не каштаваў? Я проста ведаю, як гэтым карыстацца.

**«НН»: А цяпер можаш выпіць?**

**АА:** Я п'ю рэдка, хаця не магу сказаць, што зусім не п'ю. Магу шампанскага выпіць ці піва крыху пасля лазні. Гэта расшырае сасуды, добра дзейнічае на арганізм.

**«НН»: Прыхільнікі ў бары часта цягнуць? Кажуць, футбаліста Пракапенку гэта і загубіла?**

**АА:** Хто такі Пракапенка?

**«НН»: У 1982 годзе быў любімец мінскай публікі. Амаль як ты зараз.**

**АА:** Я проста думаў, што цяпер такі ёсць Пракапенка. Ну і што, калі цягнуць? Я прафесіянал, я ведаю, як выходзіць з сітуацый. Не магу толькі навучыцца жыць не з прафесіяналамі.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**

## Спорт сцісла

• **Група смерці**. Не дужа пашанцавала беларусам з лёсаваннем да футбольнага Чэмпіянату свету — 2014. У групу з нашымі трапілі дзейныя чэмпіёны, іспанцы, а таксама французы, грузіны і фіны. Выйдзе толькі адна каманда.

• **Рыбка залатая.** Плыўчыха Аляксандра Герасіменя выйграла 100 метраў вольным стылем на Чэмпіянаце свету ў Шанхаі. Раней беларуска не заваёўвала золата на такіх прэстыжных спаборніцтвах.

• **Апошні скачок Петэрсана.** 25 ліпеня самагубствам скончыў жыццё амерыканскі фрыстайліст Джэрэт Петэрсан. На Алімпіядзе ў Турыне ён быў другім пасля нашага Грышына. У гэтага спартсмена была нестандартная біяграфія. За 28 гадоў ён паспеў згубіць у аўтакатастрофе сястру, стаць ахвярай сэксуальнага гвалту, выйграць паўмільёна ў блэкджэк, збанкрутаваць, вылечыцца ад алкагалізму, здзейсніць дзве спробы самагубства. Трэцяя стала апошняй.

• **55 ліцэнзій.** На лонданскую Алімпіяду-2012 беларускія спартсмены заваявалі ўжо 55 ліцэнзій у такіх відах спорту, як настольны тэніс, стральба кулявая, стральба з лука, плаванне, лёгкая атлетыка, футбол, пяціборства.

**ЗП**

# Адпачынак па-беларуску: Заплаці тры мільёны і слухай візгат «балгаркі»

У турцэнтры «Нарач» рамонт кіпіць у разгар адпачынкаў. На скаргі кліентаў адміністрацыя санаторыя кажа: «Працуем па праграме прэзідэнта».


Курортныя краявіды.

«Самы сезон, ліпень, а яны пад вокнамі плітку пілуюць!» — у рэдакцыю «НН» патэлефанаваў абураны госць санаторыя турыстычнага комплексу «Нарач», які належыць Федэрацыі прафсаюзаў. Па яго словах, ужо каторы дзень рабочыя кладуць перад галоўным уваходам плітку. Праца кіпіць пад самымі вокнамі санаторыя.

«Ад 8-й раніцы да 5-й вечара працуюць. Пілуюць балгаркай плітку — шум стаіць жудасны, пыл ляціць. Пад вокнамі ездзіць будаўнічая тэхніка. А кіраўніцтва на нашы скаргі не звяртае ўвагі», — расказвае Мікалай. Яго абурае тое, што рамонт пачалі ў самы разгар сезона: «Няўжо гэта нельга было зрабіць загадзя, а не тады, калі мы прыехалі адпачыць?»

Мікалай кажа, што суткі адпачынку ў санаторыі каштуюць ад 240 да 280 тысяч рублёў. «Вось прыехаў нехта на 10 дзён, заплаціў 3 мільёны і слухае за свае ж грошы візгат «балгаркі»!»

Мікалай даслаў у рэдакцыю фота і відэа працаў, што адбываюцца на тэрыторыі турыстычнага комплексу «Нарач». Складваецца абсурдная сітуацыя, мяркуе ён. Санаторый — месца адпачынку, і галоўныя па вызначэнні тут тыя, хто за адпачынак плаціць,




то бок кліенты санаторыя. Але на практыцы атрымліваецца, што адміністрацыя цалкам захапілася рамонтам і на сваіх гасцей не звяртае ніякай увагі.

«Ім важней, дзе знайсці цэмент, а не тое, ці здолее хтосьці з нас адпачыць у такіх умовах, заплаціўшы немалыя грошы».

У туркомплексе «Нарач» пацвердзілі факт правядзення работ на прылеглай да жылога корпуса тэрыторыі. На пытанне, а як жа санітарныя нормы, адзначылі: «Працы вядуцца згодна з прэзідэнцкай праграмай добраўпарадкавання тэрыторыі, таму мы нічога не парушаем».

Карэспандэнт «НН» звярнуўся ў мінскае абласное аддзяленне Беларускага таварыства абароны спажыўцоў. Там кліентам санаторыя параілі для пачатку афарміць свае прэтэнзіі ў выглядзе індывідуальных пісьмовых зваротаў на імя адміністрацыі ўстановы. Згодна з заканадаўствам, кіраўніцтва санаторыя абавязанае пісьмова адказаць на такія запыты.

У любым выпадку, вырашыць спрэчнае пытанне могуць толькі спецыялісты на месцы. Каб вызначыць, ці парушаюцца ў дадзеным канкрэтным выпадку санітарна-гігіенічныя нормы, зацверджаныя Мінздароўя, трэба запрасіць супрацоўнікаў санэпідэмстанцыі. Яны павінны замераць узровень шуму на месцы правядзення працаў і вынесці вердыкт.

Паводле патрабаванняў санітарных правілаў і нормаў, прынятых у Беларусі, норма дапушчальнага ўзроўню гуку ў палатах бальніц і санаторыяў у дзённы час (ад 7 да 23 гадзін) складае 50 дэцыбел, у жылых пакоях пансіянатаў і дамоў адпачынку — 55. На тэрыторыях, прылеглых непасрэдна да жылых будынкаў санаторыяў, норма складае 60, а на пляцоўках, спецыяльна абсталяваных для адпачынку, — 50 дБ. Сучасныя пліткарэзы здольныя «выдаваць» ад 90 да 120 дБ.

**Сямён Печанко**

# Гродзенскія даішнікі збілі доктара на працоўным месцы

Міліцэйскае кіраўніцтва сцвярджае, што лекар сам справакаваў аўтаінспектараў.

Інцыдэнт, што здарыўся ўначы 16 ліпеня ў прыёмным аддзяленні Ваўкавыскай райбальніцы, ускалыхнуў увесь горад. Супрацоўнікі гродзенскай Дзяржаўтаінспекцыі збілі дзяжурнага доктара ў прыёмным пакоі на вачах у персаналу. Версія медыка і яго калегаў адрозніваецца ад версіі міліцыі.

Пацярпелы доктар Сяргей Кабылка, намеснік галоўнага ўрача, расказвае, што даішнікі прывезлі на абследаванне нецвярозага кіроўцу. У часе працэдуры яны паводзілі сябе неналежным чынам: здымалі працэс на камеру тэлефона, давалі парады, мацюкаліся ў прысутнасці медперсаналу. Доктар зрабіў ім заўвагу, а калі зразумеў, што не зможа ў такіх умовах працаваць, патэлефанаваў у дзяжурную частку РАУС і патлумачыў сітуацыю. Затым прапанаваў затрыманаму перайсці ў іншае памяшканне. У гэты момант яго ўдарылі ў спіну і начапілі кайданкі. Ужо скаванага доктара працягвалі збіваць, некалькі разоў ударылі галавой аб сцяну. Усё гэта адбывалася на вачах у персаналу бальніцы. Збіццё спынілася, калі калегі доктара патэлефанавалі ў міліцыю.



Сяргей Кабылка напісаў заяву ў пракуратуру, ён вельмі неахвотна каментуе здарэнне і раіць пачакаць вынікаў праверкі.

Калегі характарызуюць яго, доктара з 19-гадовым працоўным стажам, як прынцыповага і прафесійнага супрацоўніка. Ён з'яўляецца старшынёй ваўкавыскага Свята-Петрапаўлаўскага брацтва (Гродзенская епархія), узнагароджаны ордэнам Серафіма Сароўскага за актыўны ўдзел у будаўніцтве Петрапаўлаўскага кафедральнага сабора ў Ваўкавыску і адраджэнне царкоўнага жыцця.

Міліцэйскае кіраўніцтва з самага пачатку бараніла аўтаінспектараў. Начальнік следчага аддзялення Ваўкавыскага РАУС Аляксандр Добаш заявіў, што доктар зацягваў працэдуру абследавання затрыманага кіроўцы, перашкаджаў міліцыянтам, а аднаго з іх увогуле збіў. Калі паведамленне пра інцыдэнт у ваўкавыскай міліцыі разышлося па СМІ, з заявай выступіла Упраўленне ўнутраных спраў Гродзенскага аблвыканкама. Абласная міліцыя прызнае факт ужывання фізічнай сілы супраць доктара, але называе гэтыя дзеянні абгрунтаванымі. Яе версія фактычна паўтарае сцвярджанні ваўкавыскіх калегаў, але дадае пры гэтым істотны момант. Цяпер доктара падазраюць у спробах дапамагчы затрыманаму пазбегнуць адказнасці, дзеля чаго ён і зацягваў час, спрабаваў вывесці кіроўцу ў іншае памяшканне.

Акалічнасці здарэння высвятляе пракуратура Гродзенскай вобласці і служба ўласнай бяспекі УУС аблвыканкама.

**СП**

# Хай плаваюць у фекаліях: у Магілёве тым, хто не плаціць камуналку, будуць адключаць каналізацыю

Магілёў стаў трэцім горадам у Беларусі пасля Мінска і Брэста, дзе тэхнічныя магчымасці дазваляюць камунальным службам адключаць каналізацыю неплацельшчыкам. Такую меру камунальныя службы характарызуюць як больш жорсткую за адключэнне гарачай вады, але менш жорсткую за высяленне, паведамляе БелаПАН. У "групе рызыкі" тыя, у каго запазычанасць за камунальныя паслугі складае тры-чатыры месяцы. Камунальнікі абяцаюць дыферэнцыравана падыходзіць да магчымага адключэння. Напрыклад, да сем'яў з непаўналетнімі дзецьмі такая мера, хутчэй за ўсё, прымяняцца не будзе.

Тэхнічна адключэнне каналізацыі адбываецца з дапамогай змяшчэння ў каналізацыйны адвод з кватэры своеасаблівага запорнага прыстасавання, якое ўяўляе сабой шарык, які працягваецца па трубах тросам. Там жа знаходзіцца відэакамеры, звязаныя з камп'ютарам. Як толькі шарык даходзіць да самога адгалінавання ў кватэру неплацельшчыка, там ён устанаўліваецца, у яго запампоўваецца паветра і ён блакіруе каналізацыю. Гэты спосаб дазваляе адключыць каналізацыю, не заходзячы ў кватэру неплацельшчыка.

Пасля такога неплацельшчык не толькі не можа карыстацца каналізацыяй, але і павінен заплаціць больш як 1 мільён рублёў, каб зноў падключыць яе.

За студзень—красавік 2011 года ў Магілёве ад жыллёва-камунальных паслуг былі адключаныя 73 неплацельшчыкі.

**СМ**

# Амерыканскія дэсантнікі высадзіліся пад Віцебскам

Група амерыканскіх дэсантнікаў прайшла экспрэс-падрыхтоўку ў 103-й гвардзейскай асобнай мабільнай брыгадзе (Віцебск), паведаміў намеснік камандзіра брыгады Павел Пішчулаў.

На працягу некалькіх дзён амерыканскія вайскоўцы трэніраваліся на паветранадэсантным комплексе, у тым ліку рабілі скачкі з парашутам. Акрамя таго, у планах візіту было знаёмства з гісторыяй і баявым шляхам брыгады.

**Паводле БЕЛТА**

## «Узяць пад увагу працяглую і дасканалую службу»

# Следчую Байкову не пасадзілі

Працяг са старонкі 1.

Фактычна пасля гэтага Генеральная пракуратура адмовілася падтрымліваць сваю калегу. Людзі, што сутыкаліся з Байковай, адзначалі яе фанатычнасць у працы.

За што ж арыштавалі Байкову? Следчая вяла справу з кантрабандай сярод брэсцкіх мытнікаў. Таксама ёй арыштаваны быў былы кіраўнік Дэпартамента фінансавых расследаванняў Анатоль Грамовіч, былы кадэбіст. Апошняму было прад'яўлена абвінавачванне па артыкуле 258 «Стварэнне злачыннай арганізацыі і ўдзел у ёй».

Летась у жніўні ў СМІ трапілі пратаколы допыту бізнэсоўца Паўла Малочкі, якія праводзіла Святлана Байкова. Цікава яшчэ, што ў эфіры ў перадачы «Хросны бацька» на тэлеканале НТВ выйшаў відэадопыт Малочкі.

Бізнэсовец на камеру расказваў пра асаблівасці працы на мытні. Калі верыць ягоным словам, то з кожнай фуры на хабар мытнікам, памежнікам і кадэбістам ішло да сямі тысяч даляраў. Дарэчы, сам Малочка, які арганізоўваў праезды расійскіх машын, арыштаваны не быў.

Яшчэ з'явілася інфармацыя, што крымінальную справу ра-зам з Байковай пачынаў раскручваць тагачасны міністр унутраных справаў Уладзімір Навумаў, які пазней з'ехаў у Маскву. Не выключалася, што арышт жанчыны мог быць помстай спецслужб за яе расследаванні.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Блізкія віншуюць Святлану Байкову (другая справа) з вызваленнем. Злева — муж.

У турме Байкова трымала галадоўку, а таксама звярталася з адкрытым лістом да Аляксандра Лукашэнкі. У ім следчая пісала пра сваю невінаватасць, а таксама прасіла кіраўніка дзяржавы аб літасці, каб працягнуць барацьбу з «трутнямі».

2 жніўня ля Вярхоўнага суда хадзілі сваякі Святланы з кветкамі. Выйшла адвакатка Таццяна Кахно, якая размаўляць з прэсай не захацела. Пачулася толькі, што да сваякоў Святлана выйдзе з іншага боку, каб не размаўляць з журналістамі. Муж Дзмітрый пабег за машынай.

Дакладны прысуд вядомы яшчэ не быў. Тым не менш, атрымалася заспець абдымкі следчай з роднымі. Ёй адразу далі кветкі і марожанае. Просьбу паразмаўляць Байкова адразу адхіліла.

Толькі на пытанне, ці расчараваная яна ў беларускім законе, адказала: «Канечне».

«Яна заўжды верыла, што праўда пераможа. Спадзявалася, што яе выпусцяць, — сказала яе мама Яніна Іванаўна. — Ні за што ся-дзела. Яна вельмі моцны чалавек».

Ужо пазней прэс-сакратарка Вярхоўнага суда Настасся Цымановіч зачытала прысуд.

Першапачаткова Байкова абвінавачвалася ў злоўжываннях па службе, перавышэнні службовых паўнамоцтваў, незаконным прыцягненні грамадзян да крымінальнай адказнасці, заключэнні іх пад варту і прымусу да дачы паказанняў. З усіх абвінавачванняў засталося толькі перавышэнне службовых паўнамоцтваў. Па ўсіх іншых артыкулах яе апраўдалі.

Яе прысудзілі да 2 гадоў абмежавання волі без накіравання ва ўстановы адкрытага тыпу, то бок «хатняй хіміі». Пры гэтым прызнаўшы, што ў дзеяннях следчага не было злых намераў. Пад увагу ўзяліся працяглы перыяд службы ў генпракуратуры, а таксама дзяржаўныя ўзнагароды. Калі браць пад увагу, што дзень турмы ідзе за два дні «хіміі», то тэрмін зняволення следчай ужо скончыўся.

Журналістаў таксама цікавіў лёс Карэна Вартаняна, які нібыта выбіваў паказанні для Байковай і ішоў з ёй па адной справе. Аднак ніякай інфармацыі атрымаць ад прэс-сакратара так і не ўдалося.

**Зміцер Панкавец**



Ядвіга Грыгаровіч. Фота 2002 года.

# «Адзіная нацыяналістка Грыгаровіч»

**31 жніўня ў Бараўлянах на 65-м годзе жыцця памерла былая рэктарка Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў Ядвіга Грыгаровіч.**

Яна была родам з Бабруйскага раёна, з вёскі Даманава. Скончыла мінскі педінстытут, пасля чаго чатыры гады выкладала ў школах. Праз нейкі час жанчына апынулася ў Інстытуце педагогікі Акадэміі навук.

З 1982 года Грыгаровіч працуе ў Інстытуце культуры. У 1992 годзе студэнтамі і выкладчыкамі Ядвіга Грыгаровіч была абраная рэктарам ВНУ. У апошнім туры яе супернікам быў прафесар Анатоль Грыцкевіч.

Шмат гадоў разам з ёй ва ўніверсітэце адпрацаваў старшыня Таварыства беларускай мовы Алег Трусаў. «Адна з нямногіх нашых патрыётак, хто не забываўся на беларускую мову, знаходзячыся ва ўладзе. Дзякуючы ёй усе справы ва ўніверсітэце вяліся па-беларуску», — кажа Алег Трусаў.

«Яна заўжды падкрэслівала сваю беларускасць, — працягвае Трусаў. — І словамі, і справамі. Часам збірала выкладчыкаў і прасіла, каб яны выкладалі па-беларуску. І цяпер Універсітэт культуры застаецца самым беларускім. Аднойчы яна паказвала раздрукоўку пасяджэння ў Лукашэнкі, дзе кіраўнік дзяржавы сказаў: «Адна Грыгаровіч нацыяналістка, па-беларуску гаворыць». Яна гэтым ганарылася. Лукашэнка таксама яе паважаў за тое, што яна заўсёды па-беларуску, а не перабягала на расійскую. Сваімі ўказамі ён пасля пакідаў яе на пасадзе».

Два гады таму прадстаўнікі інтэлігенцыі звярнуліся з адкрытым лістом да Лукашэнкі з просьбай пашырыць выкарыстанне беларускай мовы. Сярод падпісантаў была і Ядвіга Грыгаровіч. Ініцыятар збору подпісаў пісьменнік Васіль Якавенка згадвае: «Ахвотна падпісала. Запрасіла да сябе на працу. Я ёй яшчэ падарыў сваю кніжку «Пакутны век». Высока ставіла гэтую ініцыятыву».

Пра невылечную хваробу спадарыні Ядвігі было вядома ад 2007 года. Многія здзіўляліся, што яна працягвала хадзіць на працу. Цалкам адпрацавала мінулы навучальны год.

Другім мужам Грыгаровіч быў былы міністр унутраных справаў (1990—1994) і старшыня КДБ (ліпень 1994—снежань 1995) Уладзімір Ягораў. «Я ведаю гэтую гісторыю, — кажа Алег Трусаў. — Гэта было іх першае каханне, калі яны яшчэ вучыліся ў Магілёве. Потым шляхі разышліся. Аднак апошнія гады яны пражылі разам».

Ядвіга Грыгаровіч была дэпутатам савета рэспублікі. Некалі менавіта праз яе супраціў па паўгода замарудзілася прыняцце спрэчнага закона «Аб свабодзе веравызнання». У сенаце спадарыня Грыгаровіч таксама размаўляла па-беларуску.

**ЗП**

# «Трайпл» пабудуе ў Драздах прыватную школу

Сам будынак будзе ўнікальны.



Мінгарвыканкам адвёў для пабудовы элітнай школы ўчастак недалёка ад вадасховішча Драздры ў межах вуліцы Ціхая і праспекта Пераможцаў. Архітэктурны праект распрацавала маскоўская майстэрня Speech, а будаваць школу будзе кампанія «Трайпл».

Як расказаў намеснік генеральнага дырэктара Упраўлення капітальнага будаўніцтва ТАА «Трайпл» Аляксандр Каранько, раней на выдзеленым участку планавалася будаўніцтва дзяржаўнай сярэдняй школы, але пасля горад ад гэтага намеру адмовіўся, бо па суседстве ўзводзіцца мікрараён Ржавец, дзе ўжо запланаваныя дзве школы.

Ідэя будаўніцтва нібыта зыходзіла не ад «Трайпла», але кіраўніцтву кампаніі падабалася. «Асаблівага бізнэсу тут няма, — кажа намеснік гендырэктара. — Калі толькі разглядаць гэты праект як доўгатэрміновае ўкладанне».

Праект будынка будучай прыватнай школы фактычна гатовы, але яшчэ не зацверджаны, бо не да канца акрэсленая канцэпцыя новай навучальнай установы: «Мы спрабуем яшчэ на ўзроўні распрацоўкі праекта прывязаць школу да навучальнага працэсу, каб усё было зручна і функцыянальна, а не ўжо гатовы будынак прыстасоўваць да патрабаванняў». Пэўная яснасць з тым, што ж гэта будзе за школа, з'явіцца месяцы праз два-тры. Яшчэ праз год можна будзе прыступіць да будаўніцтва, якое зойме яшчэ не менш за год.

А вось архітэктурны праект будынка школы ўжо ёсць. З вялікай доляй верагоднасці можна казаць, што будучая школа будзе выглядаць менавіта так, як яе ўбачылі расійскія архітэктары. У конкурсе на распрацоўку праекта школы ўдзельнічалі дзевяць кампаній — не толькі беларускія, але і з Расіі і Літвы. Найбольш цікавым замоўцу падаўся варыянт маскоўскай майстэрні Speech.



Як патлумачыла кіраўнік творчай групы, якая працавала над праектам, Кацярына Панкевіч, фактычна адзіным патрабаваннем замоўцы было яркае і інавацыйнае архітэктурнае рашэнне.

У выніку архітэктары выкарысталі вобраз шруба, або бумеранга з трыма лопасцямі, кожная з якіх нясе ўласную функцыянальную нагрузку. Адзін блок цалкам адведзены пад класы сярэдняй школы, у другім пачатковыя класы суседнічаюць са сталовай, гульнявымі пакоямі і гурткамі, а ў трэцім размясціліся спартыўная і трэнажорная залы. Цэнтральную прастору ўсіх навучальных блокаў плануецца ператварыць у зімовыя сады, а ядром усёй планіроўкі стане аб'ём актавай залы на першым паверсе і сталовая на другім паверсе.

Архітэктары сярод іншых варыянтаў прапанавалі абліцаваць фасады будынка каляровым шклом, падбіраючы панэлі такім чынам, каб у выніку атрымаўся бесперапынны спектр. І замоўца спыніўся менавіта на такой вясёлкавай расфарбоўцы.

Вакол будынка школы архітэктары плануюць размясціць стадыён, гульнявую пляцоўку і аранжарэю.

Колькі будзе каштаваць гэты цуд архітэктурнай думкі, невядома. Але відавочна, што вельмі дорага — за простыя і танныя праекты майстэрня Speech не бярэцца. Дарэчы, школа на замову «Трайпла» — не першы досвед працы Speech у Беларусі. Раней гэтая майстэрня рабіла праект гатэля Kempinski, будаўніцтва якога плануецца на праспекце Незалежнасці.

Таксама відавочна, што не ў тры капейкі будзе абыходзіцца бацькам і навучанне дзяцей у школе-бумерангу. Дарэчы, адзін з варыянтаў каляровага афармлення будынка школы прадугледжваў аздабленне панэлямі пад золата. Але, мабыць, замоўцу «залатая школа» здалася нясціплай. Тым больш што вучыцца ў ёй будзе, мяркуючы па ўсім, тая самая залатая моладзь — дзеці айчынных нуварышаў і буйных чыноўнікаў.

У Драздах жыве і кіраўнік дзяржавы з сынамі, а «Трайпл» — кампанія, набліжаная да ўлады.

Паводле папярэдніх ацэнак, школу-бумеранг на беразе вадасховішча пабудуюць не раней за канец 2013 года.

**Паводле Naviny.by**





**Як працуюць прыватныя школы?**

Жорсткія патрабаванні да ўласнікаў прыватных навучальных устаноў не даюць развіцца такому бізнэсу. У Мінску працуе ўсяго пяць такіх школ, у якіх вучацца 343 вучні. Бацькі плацяць за кожнае дзіця ад 300 еўра за месяц, за гэтыя грошы забяспечваецца навучальны працэс, трох- ці чатырохразовае харчаванне і праезд у школьным аўтобусе. Заробкі ў «прыватных» настаўнікаў на 30—50% большыя, чым у «дзяржаўных». Гэта дазваляе наймаць спецыялістаў вышэйшых катэгорый. У кожным класе вучыцца не больш за 14 дзяцей, што дазваляе ўдзяляць ім больш увагі. Прадстаўнікі Міністэрства адукацыі, у сваю чаргу, скептычна ставяцца да вынікаў працы такіх школ. Маўляў, высокія балы ў атэстатах у вучняў такіх школ — гэта не вынік якаснай працы прыватнікаў, а фактычна купля адзнак бацькамі.

**ЯВ**

# Чэмпіёнка свету па плаванні Аляксандра Герасіменя адмовілася змяніць беларускае грамадзянства на расійскае

Беларуская плыўчыха Аляксандра Герасіменя на Чэмпіянаце свету ў Шанхаі выйграла золата на самай прэстыжнай дыстанцыі: 100 м вольным стылем. У аўторак стала вядома, што яна адмовілася ад прапановы змяніць грамадзянства і выступаць за Расію.




«Прадстаўнікі Расіі прапаноўвалі змяніць грамадзянства, — расказала яна, — з прыцэлам на тое, каб выступаць за каманду гэтай краіны ў першую чаргу ў камбінаванай эстафеце. Абяцалі вельмі выгадныя ўмовы: кватэра, машына, зарплата, што ў дзясяткі разоў перавышае маю цяперашнюю. Але я адмовілася. Для мяне гэта — пытанне ўнутранага канфлікту. Хаця расейцы ўсё яшчэ спадзяюцца і чакаюць», — сказала Аляксандра Герасіменя.

З вынікам 53,45 сек., падзяліўшы першае месца на 100 м вольным стылем з датчанкай Жанет Отэсэн, Аляксандра Герасіменя стала другой спартсменкай у суверэннай гісторыі Беларусі, каму ўдалося стаць чэмпіёнкай свету па плаванні. Першай у 2003 годзе была Алена Попчанка (на 200 м вольным стылем), праз два гады прыняла грамадзянства Францыі.

**БЕЛТА**

## Невінаваты правёў пяць гадоў у турме

На перагляд справы спадзяюцца і іншыя асуджаныя.

Вярхоўны суд вярнуў на паўторны разгляд справу асуджанага на 10 гадоў калоніі за гандаль наркотыкамі мінскага дызайнера. Пра яго «Наша Ніва» пісала ў 2009 г. (№1 ад 8 студзеня). Такім чынам суд задаволіў скаргу бацькоў асуджанага на непаўнату судовага следства, паведаміла «НН» адвакатка Руслана Вазновіч. Яна падкрэсліла, што гэты факт у роўнай ступені не пацвярджае ні віны асуджанага, ні яго невінаватасці. 1 жніўня 2011 г. у судзе Маскоўскага раёна Мінска адбылося першае пасяджэнне. Працяг справы —11 жніўня.

У турме Арцём правёў больш за тры гады — прысуд быў вынесены 18 жніўня 2008-га, да таго ён утрымліваўся пэўны час у СІЗА. Ён быў затрыманы ў выніку правядзення следчага эксперымента. Праз трэцюю асобу міліцыянты арганізавалі два закупы наркотыкаў. У выніку маладога чалавека абвінавацілі ў захоўванні і продажы наркатычных сродкаў. Бацькі Арцёма не адмаўляюць віны сына, аднак яны перакана볂ныя, што следчыя фактычна справакавалі яго на супрацьпраўны ўчынак. «Мы адшукалі ў справе шмат сур'ёзных парушэнняў і абавязкова ўкажам на іх у судзе», — кажа бацька Арцёма. Перагляд справы адновіцца 11 жніўня.

У сувязі з пераглядам справы Арцёма С. варта нагадаць пра апраўдальны прысуд у дачыненні да гамельчука Канстанціна Балуева, які па абвінавачванні ў продажы наркотыкаў правёў у турме 5 год з 8, адмераных судом. 25 ліпеня суд Чыгуначнага раёна Гомеля прызнаў яго невінаватым, а справу — сфальсіфікаванай міліцыяй.

**Сямён Печанко**

# Блохі атакуюць Мінск

Жыхары розных раёнаў скардзяцца на бяздзеянне адпаведных службаў.

У «Нашу Ніву» звярнуліся жыхары дома № 70 па вуліцы Сердзіча ў Мінску. Яны скардзяцца на тое, што пад'езды іхняга дома запаланілі блохі. Па іх словах насякомыя ў вялікай колькасці з'явіліся тыдзень таму, а адпаведныя службы, нягледзячы на тэлефанаванні і асабістыя візіты да іх, дгэтуль нічога не зрабілі. Аляксандр жыве ў кватэры №17 на перым паверсе.

«Страшна зайсці ў пад'езд. Пакуль да кватэры дабяжыш — ногі ўсе чорныя».

Ён кажа, што ўпершыню пабачыў блох у сваёй кватэры ў мінулы аўторак. Выйшаў на пляцоўку і зразумеў, што яны лезуць з падвала. «У нас увесь час зацягваецца капітальны рамонт, таму ў падвале антысанітарыя. Там у нас цеплатраса акурат праходзіць, таму там заўсёды поўна бадзяжных катоў».

У той самы дзень Аляксандр звярнуўся ў домакіраўніцтва, там параілі пачакаць да пятніцы. Але ў пятніцу ніхто не прыехаў. Патэлефанавалі на «гарачую лінію» адміністрацыі Фрунзенскага раёна. У адміністрацыі запісалі просьбу і... усё засталося па-ранейшаму, кажа жыхар дома. Па яго словах, у ЖЭСе ім паабяцалі выправіць сітуацыю, але блохі як скакалі па пад'ездзе, так і скачуць. І з кожным днём іх становіцца ўсё больш.

«Я жыву ў гэтым доме дзевяць год і ўпершыню тут такое бачу. Бабулі з нашага пад'езда прыгадваюць, што нешта падобнае было тут гадоў 25 таму», — абураецца Аляксандр.

Ён кажа, што скочкі пачалі апаноўваць і пад'езды суседніх дамоў.

Сусед Аляксандра Сяргей кажа, што ў суседнім доме прапісаная старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына, і з гэтым фактам звязвае надзеі на шчаслівае вырашэнне сітуацыі з антысанітарыяй. Праўда, жыве яна ў Драздах.

Рэпарцёр «Нашай Нівы» быў сведкам таго, як жанчына на балконе літаральна вытрасала ката ад скочак.

У ЖЭСе, які абслугоўвае дом №70 нам пакуль не ўдалося атрымаць тлумачэнні. Адказных спецыялістаў не было на месцы.

P.S. У каментарах на сайце людзі паведамляюць, што праблема з блохамі стала актуальнай і ў іншых раёнах горада.

**Сямён Печанко**

**Блохі**

(па-беларуску іх яшчэ называюць скочкі) адносяцца да атрада крывасосных насякомых. Яны з'яўляюцца пераносчыкамі небяспечных захворванняў, такіх, як напрыклад, гепатыт B, C. Блохі селяцца на жывёлах і птушках. На людзях надоўга не затрымліваюцца, але не прамінаюць магчымасці ўчапіцца за ногі.





GOALS.BY

## Еўракубкавая восень будзе

БАТЭ — «Экранас» (Літва) - 3:1.

Клуб Барысава выйшаў у групавы турнір аднаго з еўракубкаў. Пытанне толькі, якога. Ці гэта будзе Ліга чэмпіёнаў, ці ўсё ж Ліга Еўропы. Лёсаванне наступнага этапу пройдзе ў пятніцу.

## Праезд у гарадскім транспарце даражэе

Пасля таго як у рэгіёнах праезд у грамдскім транспарце падаражэў з 700 да 750 рублёў, сярод мінчукоў пайшлі чуткі, што ў Мінску кошт праезду падымецца адразу да 1200 рублёў.

Аказалася, рост не будзе такім рэзкім. У аддзеле транспарту і камунікацый гарвыканкама паведамілі «Нашай Ніве», што загад аб павышэнні кошту праезду будзе падпісаны заўтра, а ўступіць у сілу ад 4 жніўня. Праезд падаражае на 50 рублёў.

За адну паездку пасажыры будуць плаціць 900 рублёў, у кіроўцы білет будзе каштаваць 1 000 рублёў.

У экспрэсах цана складзе 1 350 рублёў. У маршрутках — ад 2 200 рублёў да 2 830 руб.

Месячны праязны на адзін від транспарту будзе каштаваць 35 480 руб., на два віды — 47 390 руб., на тры віды — 56 500 руб., на чатыры віды — 63 910 руб.

Цэны білетаў вызначаюцца абласнымі і раённымі выканаўчымі камітэтамі па ўзгадненні з Міністэрствам фінансаў.

**Міхаліна Дзятлік**

## Вялікія таксама хварэюць

Уга Чавэс упершыню паказаўся на публіцы з паголенай галавой: хіміятэрапія.



Прэзідэнт Венесуэлы пагаліў галаву. Чавес пажартаваў, што гэта яго «новы імідж». Чавэс працягвае лекаванне ад раку на Кубе.

# Спецыяльна для вас

У інтэрнэце з'явіўся траян, арыентаваны толькі на беларускіх карыстальнікаў.

Беларускі Winlock блакуе камп'ютары, нібыта за прагляд парнаграфіі. Для разблакавання ён патрабуе пераводу 100 тысяч рублёў на пэўны электронны кашалёк WebMoney.

Кампанія «ВірусБлакАда» паведаміла пра з'яўленне «чыста беларускага» Trojan.Winlock.

Trojan.Winlock — сямейства шкодных праграм, якія блакуюць ці абцяжарваюць працу камп'ютара і патрабуюць пералічэння грошай зламыснікам за аднаўленне яго працаздольнасці.

Упершыню такія з'явіліся пры канцы 2007 года. Некаторыя вірусы заражалі дзясяткі тысяч камп'ютараў.

Беларускі траян блакуе Працоўны стол Windows і паведамляе збянтэжанаму карыстальніку:

«Ваш камп'ютар быў заблакаваны за прагляд, капіяванне і тыражаванне відэаматэрыялаў з элементамі педафіліі і гвалту над дзецьмі.

Для разблакавання камп'ютара Вам неабходна заплаціць штраф памерам 100 000 беларускіх рублёў праз тэрмінал для аплаты сотавай сувязі, або ў любым салоне сотавай сувязі, альбо на карысць нашага партнёра WebMoney на рахунак BXXXXXXXXXXXX. У выпадку аплаты сумы роўнай штрафу альбо большай за яе на фіксаваным чэку тэрмінала будзе надрукаваны код разблакоўкі. Яго трэба ўвесці ў поле ў ніжняй частцы акна і націснуць кнопку „Разблакаваць". Калі цягам 12 гадзін штраф не будзе аплочаны, усе звесткі на Вашым персанальным камп'ютары будуць незваротна выдаленыя, а справа будзе перададзена ў суд для разгляду па артыкуле 242 ч.1 КК Беларусі. Артыкул 242.1 Выраб і абарот матэрыялаў або прадметаў з парнаграфічнымі малюнкамі непаўналетніх.

Караецца пазбаўленнем волі на тэрмін ад двух да чатырох гадоў альбо без такога».

Кампанія, якая спецыялізуецца на антывірусных праграмах, раіць у выпадку заражэння Trojan.Winlock ні ў якім разе не выконваць патрабаванні зламысніка. Практычна ва ўсіх выпадках пасля адпраўкі SMS абяцаны код разблакавання не прыходзіць.

Кампанія дае шэраг тэхнічных парадаў, як дзейнічаць у выпадку атакі траяна. Код разблакавання траянца — 079156005. Дапамагчы вам зможа кожны камп'ютаршчык.

**Сяргей Гезгала**

### сцісла

• **Ford зладзіў Дзень беларускай мовы.** Аўтацэнтр «Атлант-М Баравая» Ford правёў у сваіх сценах Дзень беларускай мовы. Супрацоўнікі сервіснага цэнтра не толькі размаўлялі з кліентамі па-беларуску, але і давалі ў падарунак аўдыёкнігу. Таксама былі замененыя на беларускамоўныя бэджы, шыльды, прайс-лісты. Дні беларускай мовы — частка палітыкі кампаніі ў Беларусі.

• **«BelFilm» у Брэсце.** Асацыяцыя «BelFilm» разам з рэдакцыяй газэты «Брестский курьер» зладзіла паказы сучаснага дакументальнага кіно. Гледачы асабліва цёпла паставіліся да фільма Вольгі Дашук «Дацягнуцца да нябёсаў».

• **Акадэмію мастацтваў высяляць не будуць.** Пачаўся другі этап рэканструкцыі асноўнага корпуса Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. Ён працягнецца да восені 2012 года.

**СМ, ЗХ**

# «Фантан не нясе заклікаў да эратычных дзеянняў»

**У Маладзечне збіраюцца ўсталяваць скульптуру з аголенымі. Людзі збіраюць подпісы супраць.**

Да сёлетніх «Дажынак» Маладзечна збіраюцца ўпрыгожыць новым фантанам. Пускаць струмені ўгару ён будзе на цэнтральнай плошчы горада — там, дзе раней стаяў мемарыяльны камень «Пакутнікам за волю і незалежнасць Беларусі». Той камень, усталяваны ў пачатку 90-х, падчас добраўпарадкавання горада перад «Дажынкамі» перанеслі ў цішэйшае месца.

Цэнтрам фантана стане скульптурная кампазіцыя «Залаты трыліснік» аўтарства мінскага скульптара Уладзіміра Жбанава. Кампазіцыя ўжо займела ў горадзе іншую кодавую назву: «Адам і Ева». Паколькі на тым месцы разыходзяцца дарогі, кірункі на Мінск, Гродна і Вільню будуць абазначаць лісты папараці (агульны «размах» складзе 6 метраў). У цэнтры кампазіцыі — выявы дзяўчыны і хлопца больш за два метры ўвышкі. З адзення на дзяўчыне — толькі купальскі вянок. На хлопцу няма і яго.

«Голы фантан» выклікаў у Маладзечне грамадскі пратэст. Супраць яго ўсталявання сабрана ўжо больш за сто подпісаў жыхароў горада — нямала па сённяшніх часах, калі ініцыятывы зверху аспрэчваць не прынята.

Адна з ініцыятарак збірання, кіраўніца духоўна-асветніцкага аб'яднання «Светач» Ларыса Сысун, тлумачыць сайту kraj.by, што для такой скульптуры абранае недарэчнае месца. Неабыякавыя маладзечанцы не пагаджаюцца, каб сімвалам іх горада (а скульптура на цэнтральным пляцы апрыёры прэтэндуе на такое званне) была выява «сэксагенна-эратычнага характару». Да таго ж пляц атачаюць навучальныя ўстановы, там гуляюць малыя дзеці, бывае багата турыстаў, лічыць спн. Сысун.

Спачатку фантан са скульптурай, кажа яна, планавалі змясціць у гарадскім парку — на ўлонні прыроды «Адам і Ева» выклікалі б менш пытанняў.

Калі скульптуру ўсё ж паставяць, асобныя маладзечанцы грозяцца ўначы «адзяваць» хлопца з дзяўчынай.

Скульптар Уладзімір Жбанаў — аўтар многіх мінскіх скульптур, такіх як «Дзяўчына з парасонам» у Міхайлаўскім скверы, «Гандлярка семкамі», «Фатограф» ля Камароўкі. Ён распавёў «НН», што камісія разглядала некалькі варыянтаў аздаблення плошчы. Асноўным яго канкурэнтам быў праект Сардарава і Фінскага — стэла з выявай Божай Маці. Аднак яе вырашылі паставіць на ўездзе ў Маладзечна, каб не ствараць на плошчы яшчэ адзін высокі пункт. Прасцей кажучы — каб Маці Божая не «спрачалася» з помнікам Леніну, што стаіць непадалёк.

Таксама скульптар намякнуў, што падчас абмеркавання ў Мінгарвыканкаме пытанне з пераносам помніка Леніну «засталося адкрытым». Аднак старшыня Барыс Батура адзначыў, што не паўнамоцны яго вырашаць сам — трэба раіцца з народам. «Тут з-за маёй скульптуры такое абурэнне, а што бу-дзе, калі Леніна прыбраць?» — іранізуе Жбанаў.

Скульптар дзівіцца з маладзечанскіх пратэстаў. Ён не лічыць, што фантан з аголенымі стаіць у нейкім вызначальным месцы. «Нават пад помнікам Леніну, у самым цэнтры, і бульбай, і рыбай гандлююць, і нікога не абражае». На яго думку, той бок плошчы адносіцца да зоны адпачынку, і скульптура там дарэчная. «Дый не такая вялікая яна будзе. Купалінкі Анікейчыка ў Купалаўскім скверы Мінска і тое большыя».



Але, па словах Жбанава, не ён вырашаў, дзе будзе стаяць скульптура.

А што ж тыя, хто вырашаў? «Жыць трэба прыгожа! — цытуе БелТА старшыню аблвыканкама Барыса Батуру. — Чаму ў цэнтры горада, не хачу нікога пакрыўдзіць, павінен стаяць толькі помнік Леніну ці яшчэ камусьці, а не такога кшталту кампазіцыя, музычны фантан?» Чыноўнік назваў сто сабраных подпісаў «нязначнай лічбай», але адзначыў, што рашэнне ўсталяваць скульптуру прымаў не ён асабіста, а мастацка-экспертная рада па манументальным і манументальна-дэкаратыўным мастацтве на чале са скульптарам Іванам Міско.

У аддзеле культуры Маладзечанскага райвыканкама таксама адзначылі, што фантан не нясе варожасці і «заклікаў да эратычных дзеянняў», і таму будзе ўсталяваны.

Як паведаміў Уладзімір Жбанаў журналісту «НН», цяпер кампазіцыя знаходзіцца на адліўцы на заводзе «Выдатнае ліццё» ў Мінску.

**Сяргей Мікулевіч**

### Каментар

**Маладзечанцаў не зразумелі**

Асноўная прэтэнзія маладзечанцаў — не форма скульптуры, а месца, абранае для яе. Уявім, каб пад Дом урада ў Мінску паставілі Купалінак з парку Янкі Купалы. Бо ёсць скульптуры для паркаў, а ёсць для плошчаў.

## «Аліварыя» адчыніць Музей піва

**Экскурсія будзе спалучаная з дэгустацыямі.**

Ён размесціцца ў гістарычным будынку XIX ст. на перасячэнні вуліц Кісялёва і Багдановіча (былыя Старажоўская і Аляксандраўская). Наведнікі змогуць пазнаёміцца з амаль 150-гадовай гісторыяй прадпрыемства. Частка экспазіцыі будзе прысвечана гісторыі кампаніі Carlsberg, у склад якой сёння ўваходзіць «Аліварыя».

Госці пабачаць абсталяванне піваварні XIX ст., калекцыю пляшак і этыкетак розных гадоў, архіўныя дакументы.

Можна будзе і на свае вочы пабачыць, як варыцца піва сёння. А тыя, каму споўнілася 18 год, змогуць прадэгуставаць новыя гатункі.

**Сямён Печанко**

## У Лагойску пабудуюць рыцарскі горад

На старым гарадзішчы Лагойска, які размясціўся ў маляўнічым парку Тышкевічаў, узнікне рыцарскае паселішча. Ідэя пабудаваць тут драўляны рыцарскі замак і горад майстроў нарадзілася пасля сумеснай калегіі Мінспорту і Мінкультуры. Праект плануюць рэалізоўваць сумеснымі намаганнямі бізнэсу і мясцовых уладаў.

«Гэта ідэальнае месца — з цікавай гісторыяй, недалёка ад Мінска і гарналыжных цэнтраў, куды ўзімку сцякаецца мноства турыстаў, — кажа Аляксандр Варыкіш, дырэктар турфірмы «Краіна замкаў». — Гэта пашырыць сезон і дазволіць рыцарскаму замку функцыянаваць цэлы год.

У Міністэрстве культуры нас накіравалі ў Інстытут гісторыі НАН Беларусі і да археолагаў. Спачатку на месцах меркаванага будаўніцтва будуць праведзеныя раскопкі. Калі нам удасца знайсці рэшткі старога падмурка, новыя будынкі будуць узведзеныя ў адпаведнасці з ранейшымі межамі. Думаю, для рэалізацыі задуманага спатрэбіцца паўтара года».

**Паводле Tio.by**

БІБЛІЯТЭКА

## Вайцюшкевіч як люстэрка гісторыі

**Выйшла біяграфія папулярнага спевака.**




Беларускае слова ад спеву. — Мінск: Кнігазбор, 2010.

«Беларускае слова ад спеву» — не класічнае біяграфічнае выданне, калі аўтар са скрупулёзнасцю выпісвае жыццё артыста. У нашым выпадку біяграфія — гэта кампіляцыя: падборка інтэрв'ю, артыкулаў, нарысаў, рэпартажаў з канцэртаў, якія ў храналагічным парадку адлюстроўваюць не толькі станаўленне Вайцюшкевіча, а і гісторыю рок-музыкі.

Выданне склалі Эла Дзвінская, Анатоль Мяльгуй і Павал Севярынец. Яно мае шэраг мінусаў. Па-першае, калі складаць біяграфію з публікацый, немагчыма пазбегнуць паўтораў. Па-другое, кнігу б упрыгожыла глабальнае (старонак на трыццаць) інтэрв'ю з музыкам.

Аднак плюсаў у выдання ўсё адно больш. Улічым інтэрв'ю з сябрамі і калегамі Тодара — важны матэрыял, які дапамагае ўбачыць не толькі ролю Вайцюшкевіча ў музычным працэсе, але і сам працэс.

Рок-літаратуры ў нас настолькі мала, што любая, а тым больш цікавая (як у нашым выпадку) біяграфія мае шансы разысціся накладам, большым за 200 асобнікаў.

**Юрась Ускоў**

## Новы альбом Алесі: Гілевіч у трансе

**Спявачка Алеся выдала альбом танцавальных рэміксаў.**

Ён называецца «Одна ночь в Минске». Паводле музыкі альбом выйшаў досыць стандартным. Ад «Жаўраначкі» на словы Ніла Гілевіча ў трансверсіі засталася толькі назва. Але ў дыскаграфіі Алесі — гэта найлепшы альбом. Галоўныя трэкі — «Крылья», «Калінакаліна» і «Жаўраначка».

**СБ**



# Гісторыя Беларусі. Частка XX.
# Ці быў Святаполк акаянным?

Піша **Алег Дзярновіч**.

**Працяг. Пачатак у № 26,28, 30,39, 47 за 2009 год, № 7, 22, 27, 29, 34, 39 за 2010 год. № 6, 8, 11, 18, 20, 24.**

Падзеі 1015 г. паказваюць нам, што пры ўсёй вонкавай зададзенасці ў гісторыі заўжды застаецца вялікае месца для драматургіі. Зняволены сваім афіцыйным бацькам, пазбаўлены сям'і, дарадцаў і памочнікаў — тураўскіх ды лацінскіх, — князь Святаполк апынаецца на кіеўскім «стале» (троне). Але адной з найбольш важных падзей перыяду кіеўскага княжання Святаполка стала загадкавая смерць ягоных трох зводных братоў: Барыса, Глеба і Святаслава.

Наймалодшыя сыны князя Уладзіміра Барыс і Глеб сталі першымі рускімі святымі, хоць дакладная дата іх кананізацыі выклікае дыскусіі. Але, найхутчэй, гэта адбылося ўжо ў XI ст. Браты былі кананізаваныя як пакутнікі, што прынялі смерць не ад ворагаў хрысціянства, а ад адзінаверцаў, і іх пакутніцкі подзвіг заключаўся не ў змаганні, а ў незлаславасці і непраціўленні ворагам. У рэшце рэшт, Барыс і Глеб сталі нябеснымі заступнікамі рускіх князёў. Дзмітры Ліхачоў у гэтай сувязі адзначаў, што палітычная тэндэнцыя культу Барыса і Глеба зразумелая —умацаваць адзінства княскага стану Русі на аснове строгага выканання феадальных абавязкаў малодшых князёў у адносінах да старэйшых і старэйшых у адносінах да малодшых. Храмы ў гонар Барыса і Глеба стануць аднымі з самых папулярных на рускіх землях, і падобная царква будзе ўзведзена ўжо ў XII ст. пасярод балцкіх пушчаў — у Горадні. Для нас жа сюжэт з Барысам і Глебам мае значэнне яшчэ ў тым, што ў іх забойстве сучаснікі абвінавачвалі князя Святаполка Тураўскага, як гэта наўпрост робіцца таксама ў «Аповесці мінулых часоў».

## Кананічная версія

Кананічная версія, вядомая як паводле летапісаў, так і ў агіяграфічнай літаратуры, поўніцца мноствам падрабязнасцяў. У 1015 г., калі захварэў князь Уладзімір, Барыс быў выкліканы ў Кіеў. У хуткім часе, пасля яго прыбыцця стала вядома пра ўварванне печанегаў, і кіеўскі князь даслаў супраць іх сына з дружынаю. Нідзе не спаткаўшыся з нападнікамі, Барыс вяртаўся назад ды спыніўся на рацэ Альце (сёння каля Пераяслаў-Хмяльніцкага Кіеўскай вобласці). Тут ён даведаўся пра смерць бацькі ды заняцце княскага стала Святаполкам. Дружына прапанавала Барысу ісці на Кіеў ды авалодаць «сталом». Але малады князь, якому тады было каля 25 гадоў, не пажадаў парушаць святасці родавых адносін ды адкінуў гэтую прапанову. Дружына пакінула Барыса, і ён, фактычна, застаўся толькі са сваім малодшым атачэннем («отракамі»).

Святаполк, паведаміўшы Барысу пра смерць бацькі, адначасова прапанаваў быць з ім «у любові» ды павялічыць удзел (уладанні). Але таксама новы кіеўскі князь, жадаючы ліквідаваць папулярнага сярод дружыны і народа канкурэнта, даслаў і забойцаў — слугу свайго Путшу і вышгарадскіх баяраў. Калі ж Путша з таварышамі прыбылі ў лагер Барыса ў ноч на 24 (30) ліпеня, то пачулі псальмы, якія даносіліся з шатра маладога князя. Путша вырашыў дачакацца, калі той пойдзе спаць. Калі ж Барыс, двойчы засмучаны смерцю бацькі і весткамі пра злачынныя намеры Святаполка, скончыўшы малітву, лёг спаць, забойцы ўварваліся ў шацёр і дзідамі працялі князя і слугу ягонага мадзьяра Георгія, які ўласным целам захінаў гаспадара. Барыса, які яшчэ дыхаў, забойцы завярнулі ў шатровае палатно і адвезлі да Святаполка, той жа загадаў двум варагам дабіць князя ўдарамі мячоў у сэрца.

Пасля забойства Барыса Святаполк паклікаў у Кіеў яго роднага брата Глеба. Калі ён спыніўся каля Смаленска, то атрымаў пасланне ад свайго іншага брата — Яраслава (а гэта ўжо новы і важны для далейшай гісторыі сюжэт). Яраслаў, які на той час княжыў у Ноўгарадзе, паведамляў пра смерць бацькі, забойства Барыса, планы Святаполка знішчыць Глеба ды раіў апошняму не ездзіць у Кіеў. Паводле жыцця святога, калі да Глеба прыбылі забойцы, той таксама маліўся. Гарасер, які стаяў на чале дасланага аддзела, загадаў зарэзаць князя ягонаму ж кухару, торку (качэўніку-цюрку) з паходжання.

Яшчэ адна ахвяра, князь Святаслаў, загінуў у Карпатах, спрабуючы ўратавацца ўцёкамі ў Венгрыю. У адрозненне ад Барыса і Глеба, пахаваных у Вышгарадзе пад Кіевам, цела Святаслава не захавалася і таму не магло стаць крыніцай цудаў, што ёсць неабходнай умовай для кананізацыі. З гібеллю Святаслава карпацкія харваты былі пазбаўленыя свайго апошняга саюзніка і канчаткова трапілі ў залежнасць ад Венгерскага каралеўства, стаўшы Рускай маркай.

У сувязі з роляй, якая прыпісваецца Святаполку ў летапісным і жыційным аповедзе пра Барыса і Глеба, наш герой паўстае адным з найбольш адмоўных персанажаў сярэднявечнай рускай гісторыі і за ім замацоўваецца эпітэт Акаянны. Праўда, імя Святаполк застаецца княскім і ім працягваюць называць дзяцей у родзе Рурыкавічаў.

## Альтэрнатыўная версія

У 1834 г. прафесар Санкт-Пецярбургскага ўніверсітэта, ураджэнец Віленскага павета Восіп Юллян Сянкоўскі падрыхтаваў пераклад з арыгінала ісландскай «Сагі пра Эймунда». Сянкоўскі ўпершыню надрукаваў гэты тэкст ва ўласным часопісе «Библиотека для чтения», дзе выказаў, насуперак пашыранаму тады меркаванню, давер да скандынаўскай крыніцы. Даследчык звярнуў увагу на тое, што конунг Ярыслейф (Яраслаў Мудры), змагаючыся з конунгам Бурыслейфам, наняў нарвежскую дружыну на чале з конунгам-выгнанцам Эймундам Хрынгсанам. Ярыслейф, рыхтуючыся да вайны са сваім братам Бурыслейфам, паводле скандынаўскага звычаю, пусціў па сваёй зямлі баявую стралу. Паводле сагі, Бурыслейф быў забіты ў баі варагамі.

Калі з гістарычнасцю конунга Эймунда спрэчак няма, то ідэнтыфікацыя Бурыслейфа выклікае дыскусіі. Некаторыя даследчыкі бачаць пад гэтым іменем Барыса, іншыя — польскага князя Баляслава Храбрага, якога сага блытае з ягоным саюзнікам Святаполкам, які сапраўды змагаўся з Яраславам, а падзеі, апісаныя ў сазе, сапраўды падыходзяць пад біяграфію гэтага кіеўскага і тураўскага князя. Хутчэй за ўсё, у «Сазе пра Эймунда» мы бачым накладанне рэальных падзей з біяграфіі некалькіх чалавек, якія складалі варожы Яраславу лагер, у адной асобе эпічнага Бурыслейфа.



**Ян Матэйка. «Баляслаў і Святаполк пад Залатой брамай Кіева». У гэтай карціне славуты мастак дапусціў храналагічную вольнасць: Залатую браму Яраслаў Мудры збудуе ўжо пасля падзей 1018 г. Тым не менш, з эпізодам уезду Баляслава ў Кіеў звязана гістарычная польская легенда пра каранацыйны меч польскіх каралёў «Шчарбец» — шчарбіна ўтварылася на ім пасля таго, як Баляслаў Храбры ўдарыў мячом па браме Кіева.**

Тым не менш, звесткі сагі далі падставы для нараджэння новай версіі пра забойства Барыса. Найперш звяртае на сябе ўвагу тое, што Бурыслейф, як і Барыс, загінуў ад рук варагаў. З усіх жа братоў толькі Барыс і Глеб у 1015 г. заявілі пра сваю вернасць новаму кіеўскаму князю Святаполку, для якога было б вельмі дзіўным забіваць сваіх саюзнікаў. Такім чынам, вымалёўваецца новы замоўца забойства Барыса і Глеба — наўгародскі князь Яраслаў, які потым увойдзе ў гістарыяграфічную традыцыю як Яраслаў Мудры. І менавіта Яраслаў напярэдадні смерці свайго бацькі князя Уладзіміра рыхтаваўся да вайны з ім, адмовіўшыся плаціць даніну Кіеву ды наняўшы варажскі аддзел.

Ужо ў другой палове XX ст. цэлы шэраг гісторыкаў (Мікалай Ільін, Марк Аляшкоўскі, Анджэй Попэ) паспрабавалі перагледзець паведамленні крыніц, апраўдваючы Святаполка. І па сёння гэтая гіпотэза мае як сваіх прыхільнікаў, так і праціўнікаў. Украінскі гісторык Лявонцій Вайтовіч настойвае на тым, што ні Яраслаў, ні яго атачэнне не рызыкнулі б дамагацца кананізацыі братоў-пакутнікаў, калі б яны самі былі датычныя да смерці Барыса і Глеба. Але таксама гісторыкі і крыніцазнаўцы, пачынаючы ад Сяргея Салаўёва, мяркуюць, што аповед пра смерць Барыса і Глеба яўна ўстаўлены ў «Аповесць мінулых гадоў» пазней, чым быў напісаны асноўны тэкст летапісу.

## Кіеўская выправа Баляслава

Ужо ў 1016 г. Яраслаў з наўгародскім і варажскім войскам выступіў супраць Святаполка. Непрыяцелі сустрэліся пад Любечам на Дняпры, і ніводны з бакоў доўга не рашаўся перайсці раку ды пачаць бой. Яраслаў жа атакаваў, калі Святаполк са сваёй дружынай баляваў. Войска кіеўскага князя было разбітае, і Яраслаў увайшоў у Кіеў.

І тут мы бачым, як актыўна ў рускую палітыку пачынае пранікаць польскі фактар. Святаполк уцякае да свайго цесця Баляслава Храбрага і ў 1018 г. пры падтрымцы польскіх і печанежскіх войскаў выпраўляецца на Кіеў. У бітве на Бугу польскае войска сустрэлася з дружынай наўгародцаў, і летапісец піша, што набліжаныя Яраслава своеасаблівым чынам падбадзёрвалі Баляслава, стоячы на іншым беразе Буга. Ваявода Буда крычаў: «Праткнём табе колам бруха тваё тоўстае!» Але летапісец дадае: Баляслаў быў такі вялікі і цяжкі, што на кані не мог сядзець, але затое быў разумны. Баляславу толькі і засталося, як звярнуцца да свайго войска: «Калі вас не прыніжаюць гэтыя знявагі, то загіну я адзін». Польскі князь прышпорыў свайго каня і ўехаў у раку. Дружына Яраслава была разбітая, а сам князь уцёк у Ноўгарад.

Польскае ж войска засталося ў Кіеве «на пракорме». З Кіева Баляслаў паспеў разаслаць некалькі лістоў: да візантыйскага імператара Васіля Балгарабойцы, германскага імператара Генрыха II, а таксама да Яраслава Мудрага, прапануючы таму аддаць ягоную сям'ю, узятую ў палон у Кіеве, узамен на дачку Баляслава — жонку Святаполка.

Але тым жа часам абвастрыліся адносіны паміж Святаполкам і Баляславам. Магчыма, польскі князь так да канца і не перадаў свайму зяцю паўнамоцтвы, а вырашыў сам умацавацца ў Кіеве. Апроч таго, зразумела, што размешчанае на чужой тэрыторыі войска ніколі не паводзіць сабе карэктна. Пра ступень напружанасці сведчыць паведамленне летапісца, што Святаполк загадаў вынішчаць польскія гарнізоны. Але пра гэтую новую вайну, калі яна і была, мы больш нічога не ведаем. Усе ж крыніцы, рускія і польскія, сведчаць толькі пра тое, што Баляслаў пакінуў Кіеў і скіраваўся праз Палессе да Польшчы.

Менш чым праз год, пазбаўлены ваеннай падтрымкі палякаў, Святаполк зноў вымушаны быў уцякаць з Кіева ад Яраслава, які вярнуўся з варагамі. Гэтым разам Святаполк звярнуўся да новых саюзнікаў — печанегаў.

## Уцёкі Святаполка

Была пятніца. Два войскі сустрэліся на Альце, там, дзе чатыры гады таму загінуў Барыс. Падчас бітвы непрыяцелі сыходзіліся тры разы. Пад вечар Святаполк быў разбіты. Летапісец, які быў яўна на баку Яраслава, так апісвае наступства паразы для Святаполка: «І калі бег ён, напаў на яго бес, і расслаблі ўсе косткі ягоныя, і не мог ён сядзець на кані, і неслі яго на насілках». У такім стане Святаполка прынеслі да Бярэсця, і менавіта з такімі драматычнымі падзеямі звязаная першая прыгадка ў летапісах гэтага горада пад 1019 г. Выглядае, што памежная роля Бярэсця абазначылася з самага пачатку яго існавання. Найранейшыя матэрыялы гарадзішча на мысе пры ўпадзенні Мухаўца ў Буг якраз і датуюцца мяжой X—XI стст.

Калі верыць крыніцам, то Святаполк быў ужо зламаны маральна і псіхічна. У Бярэсці ён увесь час прыгаворваў свайму атачэнню: «Бяжыце са мной, гоняцца за намі!» Калі ж «отракі» Святаполка паслалі выведаць, ці сапраўды нехта едзе за імі, то высветлілася, што пагоні не было. Але князь прыўзняўся з ложка і ўсё казаў: «Вось ужо гоняцца, ой, гоняцца, бяжыце!» Не мог ён вытрымаць на адным месцы і праехаў усю польскую зямлю, так і памёр у гэтым шляху выгнанца «між ляхамі і чэхамі». Праўда, некаторыя даследчыкі, пачынаючы з Сянкоўскага, апошні летапісны выраз інтэрпрэтуюць не як літаральнае геаграфічнае пазначэнне месца смерці Святаполка паміж Польшчай і Чэхіяй, а лічаць прыказкай «Бог ведае дзе».

Як адзначаў Мікола Ермаловіч, падзеі 1015 года паказалі, што калі Полацку належала вырашальная роля ў барацьбе Кіева і Ноўгарада, дык Тураў займаў падобнае ж месца ў барацьбе паміж Кіевам і Польшчай. Дадамо — усё ж не настолькі самастойнае месца. Але сам факт прысутнасці Польшчы ў далейшых палітычных калізіях і геакультурных выбарах на тэрыторыі Беларусі ды ўсёй Усходняй Еўропы стаў ужо доўгатрывалым.

Яраслаў жа, сын Уладзіміра і Рагнеды Полацкай, як пішуць летапісы, «уцёр пот з дружынаю сваёю» і канчаткова пачаў княжыць у Кіеве.

**Пра эканоміку і права мы пагаворым у наступным выпуску «Гісторыі Беларусі».**

# Пракурор Швед: віцебскія тэрарысты дзейнічалі самастойна

Завершанае папярэдняе расследаванне па справе аб тэракце ў мінскім метро 11 красавіка 2011 года, а таксама аб выбухах у Мінску 4 ліпеня 2008 года і ў Віцебску 15 і 22 верасня 2005 года.

Пра гэта паведаміў журналістам 1 жніўня намеснік генеральнага пракурора, кіраўнік следчай групы Андрэй Швед.

1 жніўня матэрыялы справы — больш за 550 тамоў — перададзеныя пракурору для накіравання ў суд. Хутчэй за ўсё, справа будзе слухацца ў Вярхоўным судзе.

Паводле слоў Шведа, Кавалёву ставяць у віну больш за 15 эпізодаў злачыннай дзейнасці, звязанай з удзелам у акцыі тэрарызму ў мінскім метро, незаконным абаротам выбуховых рэчываў, незаняседнем пра злачынства, укрывальніцтвам прылады злачынства.

Канавалаву ставяць у віну 30 эпізодаў злачыннай дзейнасці, у тым ліку чатыры акты тэрарызму, незаконны абарот выбуховых рэчываў, асабліва злоснае хуліганства, наўмыснае пашкоджанне маёмасці. Максімальнае пакаранне, прадугледжанае арт. 289 КК (тэрарызм), — смяротная кара.

Як адзначыў Швед, з першых дзён расследавання падазроным, а затым — абвінавачваным была дадзена абарона. Хадайніцтваў, скаргаў і заяў з іх боку і з боку адвакатаў не паступала.

Намеснік генпракурора паведаміў: падчас расследавання крымінальнай справы, аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў не было выяўлена ўскосных сведчанняў таго, што за абвінавачанымі стаялі якія-небудзь спонсары ці замоўцы. «Канавалаў і Кавалёў дзейнічалі самастойна», — сказаў ён.

Паводле слоў Шведа, першае злачынства было ўчынена ў 2000 годзе. На рахунку абвінавачаных — 15 забітых і сотні пакалечаных; урон ад іх дзеянняў перавысіў 2 мільярды рублёў, заявіў намеснік генпракурора.

Ён адзначыў, што нічога незвычайнага ў даце 11 красавіка 2011 года (дзень учынення тэракта ў мінскім метро) няма. «Злачынства магло быць учынена як 10-га, так і 12 красавіка. 11 красавіка тэракт быў учынены Канавалавым і Кавалёвым у сілу збегу акалічнасцяў», — сказаў Швед.

Намеснік генпракурора падкрэсліў: ніякай сувязі паміж абвінавачанымі аб выбуху ў мінскім метро і нарвежскім тэрарыстам Андэрсам Брэйвікам «няма і быць не можа».

«Гэта журналісцкая качка», — дадаў Швед.

**Вячаслаў Будкевіч, БелаПАН**

# Улады прызналі сур’ёзнасць аварыі на «Беларуськаліі»



Пачала дзейнічаць урадавая камісія. На руднік пусцілі журналістаў.

Улады стварылі ўрадавую міжведамасную камісію па ліквідацыі пагрозы затаплення аднаго з руднікоў ААТ «Беларуськалій». Яе ўзначаліў першы віцэ-прэм’ер Уладзімір Сямашка. У камісію сярод іншых увайшлі прадстаўнікі МНС і Мінпрыроды.

Камісію стварылі праз месяц пасля здарэння на рудніку 2-га рудаўпраўлення, калі адбылося выдзяленне расолаў у выпрацаваную пароду. І хоць услед за стварэннем камісіі ў шахту падтопленага рудніка пусцілі журналістаў, дазволіўшы фота- і відэаздымкі, сам факт такой актыўнасці можа гаварыць пра сур’ёзнасць сітуацыі на рудніку. Месяц кіраўніцтва «Беларуськалія» казала пра адсутнасць пазаштатных сітуацый і пра тое, што прадпрыемства працуе ў звычайным рэжыме. У прэсу пратачваліся чуткі з неафіцыйных крыніц пра куды больш няпэўны і складаны стан рэчаў на рудніку, але адміністрацыя іх аспрэчвала.

У тым ліку інфармацыю пра знойдзенае на тэрыторыі рудніка падземнае возера.

Цяпер жа, калі стала вядома пра стварэнне камісіі на чале з Сямашкам, загаварылі і чыноўнікі. Так, гендырэктар «Беларуськалія» Валерый Кірыенка наўпрост заявіў агенцтву «Інтэрфакс-Захад», што руднік падтапілі карставыя воды. Пры гэтым ён ізноў адзначыў, што сітуацыя кантралюецца, прадпрыемства працуе ў звычайным рэжыме.

Агенцтва пагутарыла з экспертам, знаёмым з сітуацыяй на рудніку. Па яго словах, пад руднікам насамрэч існуе падземнае возера і яно нават нанесенае на карту Старобінскага радовішча. З гэтага вынікае, што кіраўніцтва прадпрыемства не можа не ведаць пра яго існаванне і, адпаведна, пра пагрозу затаплення. Па словах суразмоўцы агенцтва, «Беларуськалій», імкнучыся выканаць заданні па павелічэнні аб’ёмаў здабычы калію, парушыў правілы бяспекі, што і прывяло да аварыі на рудніку.

**Сямён Печанко**

# Дзікі Захад Беларусі

Прыгоды гродзенскіх рабаўнікоў вартыя вестэрна: адзін меў ружжо, якім здзейснілі «акт вандалізму», іншага прагналі бутэлькай вады.

Як высветліла следства, малады чалавек, што падазраецца ў нападзе са зброяй на начны магазін у Гродне, меў і іншыя грахі крымінальнага характару, піша «Гродзенская праўда». Пасля звальнення з працы (коннага клуба ў забаўляльным комплексе «Каробчыцы»), ён прыхапіў з сабой мікрахвалёўку, два электрачайнікі, вагі. Выявілася таксама, што ружжом, з якім ён пайшоў у начнік, быў здзейснены акт вандалізму. З яго расстралялі скульптуры мемарыяльнага комплексу «Гродзенская крэпасць. Партызанскі лагер».

Таксама на гэтым тыдні ўступіў у сілу прысуд па справе 23-гадовага жыхара Гродна, гісторыя якога не саступае першай па кур’ёзнасці. У лістападзе мінулага года ён вярнуўся з турмы, куды трапіў упершыню. Сумаваў нядоўга. Патрапіў без ведама гаспадароў у адну з гарадскіх кватэр, адкуль знёс сігнальны пісталет. З ім пайшоў на новую «справу». Выбраў адну з крамаў у цэнтры Гродна, апрануў маску з прарэзамі для вачэй і запатрабаваў аддаць дзённую выручку. Касіры не разгубіліся, адна з іх націснула трывожную кнопку. Няўдалы рабаўнік кінуўся ўцякаць, услед яму паляцела пляшка з вадой. Знайшлі яго, як і першага, перагледзеўшы відэазапіс.

**СП**

# Майстар пахавальнай канторы трэніраваўся на жывых падначаленых

У Магілёве на майстра камунальнага ўнітарнага прадпрыемства рытуальных паслуг заведзена крымінальная справа.



Каб удасканаліць навыкі пахавання, ён наладзіў адмысловыя трэніроўкі. У выкапаную яму апускалі труну з адным з супрацоўнікаў. Трэніраваліся п’яныя, правяралі, ці змогуць два чалавекі апусціць труну ў яму. Такія «семінары» падабаліся не ўсім, многія сыходзілі. Астатнія маўчалі, бо майстар мог і рукі распусціць.

Аднак «таленты» майстра на гэтым не абмяжоўваліся. З кожнага пахавання ён прыхоўваў частку грошай, атрыманых ад родных нябожчыкаў. Па інфармацыі следства, не выключана, што да гэтай справы ён падключыў частку рабочых, прымушаючы іх вымантачваць у сваякоў памерлых дадатковыя сродкі. Адна з заяў з боку кліентаў прадпрыемства і вывела следчых на махляра. Паводле прыблізных падлікаў, ад 2009 года несумленны прыбытак майстра складаў да 15 мільёнаў штомесяц. На яго заведзеная крымінальная справа па шэрагу артыкулаў — ад крадзяжу ў буйных памерах да перавышэння службовых паўнамоцтваў.

**Паводле БелаПАН**

# У Расіі чарговая трагедыя на вадзе

У Маскве патануў прагулачны катар, загінулі 9 чалавек. Следчыя кажуць пра парушэнні правілаў эксплуатацыі.

У ноч на нядзелю ў Маскве прагулачны катар «Ластаўка» сутыкнуўся з баржай «Ака-5». Удар быў такой моцы, што катар літаральна падмяла пад баржу і ён затануў за лічаныя секунды. Паводле апошняй інфармацыі, дзевяць чалавек загінулі, лёс аднаго пасажыра невядомы, сем чалавек здолелі ўратавацца.

Сярод загінуўшых — капітан судна Генадзь Зінгер 1961 г.н. Як высветлілася, на катары, разлічаным на 12 чалавек, першапачаткова было 17 чалавек, потым адзін сышоў на бераг.

Паводле следчых, менавіта за парушэнне правілаў бяспекі — перагрузку судна — капітана штрафавалі тройчы, апошні раз у чэрвені гэтага года.

Гэта другі выпадак масавай гібелі людзей у выніку затаплення воднага транспарту ў Расіі ў гэтым месяцы. Нагадаем, 10 ліпеня ў Татарстане патануў прагулачны параход «Булгарыя». 126 з 205 пасажыраў і членаў экіпажа загінулі. У тым ліку і грамадзянка Беларусі, сястра капітана «Булгарыі».

**СП**



РИА НОВОСТИ

## Сцісла

• **Расійскі Боінг-767 аварыйна сеў у Мінску.** Пасажырскі самалёт Боінг-767 авіякампаніі «Расія», які рухаўся рэйсам «Радос (Грэцыя) — Санкт-Пецярбург (Расія)» даслаў запыт на аварыйную пасадку. На вышыні 10 тысяч метраў перастала падавацца паліва ў правы рухавік. На борце былі 290 пасажыраў і 11 членаў экіпажа. Ніхто не пацярпеў.

• **Брат на брата, сястра на сястру.** 19-гадовы жыхар Ашмянаў забіў металічнай пласцінай старэйшага брата. Следчым ён патлумачыў, што брат часта збіваў яго. Трэці брат, самы старэйшы, зараз адбывае пакаранне за забойства бацькі.

• **У вёсцы Адвержычы Столінскага раёна** 22-гадовая дзяўчына забіла нажом старэйшую на пяць гадоў сястру. Яны не падзялілі каханага.

• **Патанула дзяўчынка.** У вёсцы Чыжоўка Дубровенскага раёна патанула дзяўчынка, якой не было і двух гадоў. Каля хаты стаяла бочка, куды злівалася вада з даху. Малая нейкім чынам паднялася да краю ёмістасці і звалілася ў бочку.

• **Студэнт знайшоў аўтамат — і здаў у міліцыю.** 21-гадовы берасцеец, студэнт БрДУ, разбіраючы гаспадарчыя пабудовы ў двары нежылога дома ў вёсцы Лукава Маларыцкага раёна, знайшоў аўтамат ППШ 1944 г. Ён у той самы дзень здаў рарытэт у Маларыцкі РАУС.

**СП**

## КАНЦЭРТЫ

### Neuro Dubel

**9 жніўня а 19-й у «Графіці» (зав. Калініна, 16)** канцэрт гурта Neuro Dubel. Даведкі: (029) 638-44-44, (033) 638-44-44.

### Рок-н-рол і рэтра: гурт «The Apple»

**5 жніўня а 19-й у «Графіці» (зав. Калініна, 16)** канцэрт гурта The Apple. Даведкі: (029) 638-44-44, (033) 638-44-44.

### Тузін Unplugged: гурты Akute i Nevma

**6 жніўня а 18-й у «Графіці» (зав. Калініна, 16)** канцэрт гуртоў Akute i Nevma ў межах праекту «Тузін Unplugged». Даведкі: (029) 638-44-44, (033) 638-44-44.

### Chiefs Band

**10 жніўня а 19-й у «Графіці» (зав. Калініна, 16)** канцэрт гурта Chiefs Band. Даведкі: (029) 638-44-44, (033) 638-44-44.

### Tarantino's party: гурт Silicon

**11 жніўня а 19-й у «Графіці» (зав. Калініна, 16)** канцэрт гурта Silicon. Даведкі: (029) 638-44-44, (033) 638-44-44.

### Блюз ад The Road Dogs

**12 жніўня а 19-й у «Графіці» (зав. Калініна, 16)** канцэрт гурта The Road Dogs. Даведкі: (029) 638-44-44, (033) 638-44-44.

## ІМПРЭЗЫ

### Фестываль скутарыстаў

**5 жніўня ў Мінску** пройдзе Fashion Scooter Fest. Скутарысты з'явяцца на вуліцах сталіцы ў незвычайных уборах. Дзяўчаты на скутарах будуць ездзіць у вячэрніх сукенках і на абцасах. Хлопцы ў пінжаках і гальштуках. Усім сваім выглядам яны пакажуць, што скутар на гарадскіх вуліцах — самы крэатыўны, зручны і рэспектабельны транспарт. А 12-й скутарысты збяруцца ля помніка Калініну (насупраць увахода ў Батанічны сад), пасля паедуць калонай да Велазавода, дзе пройдзе экскурсія па яго цэхах. Пасля ўдзельнікі свята пераедуць у Цэнтральны дзіцячы парк імя Горкага, дзе ад 16-й пачнуцца конкурсы і спаборніцтвы. Даведкі па т.: (025) 995-60-56.

### Запрашае Залессе

**6 жніўня ў вёсцы Залессе (Смаргонскі раён)** пройдзе фестываль-кірмаш «Залессе запрашае сяброў». Да ўдзелу запрашаюць майстроў народнай творчасці, калектывы мастацкай самадзейнасці і ўсіх, хто жадае цікава і змястоўна правесці дзень. На свяце можна будзе набыць вырабы мясцовых майстроў, пакаштаваць стравы залескіх гаспадыняў, пачаставацца напоямі і адварамі народнай кухні, падсілкавацца салам, яйкамі, полійкай. Будзе таксама шанец паглядзець выступленні мясцовых калектываў мастацкай самадзейнасці і сольных выканаўцаў, а таксама гасцей з Польшчы (этнаграфічны калектыў «Цаглінкі»), Масквы (фальклорны гурт «Кірмаш»), Віцебска (калектыў мастацкай самадзейнасці «Віцебскаблгаз») і суседніх Жодзішак (гурт песні і танца «Вечарынка» Жодзішкаўскага ЦДК). Пачатак свята ў 12.00. Даехаць да Залесся з Мінска можна чыгункай: электрычкай да Маладзечна, а потым дызелем Маладзечна—Гудагай да прыпынку «Залессе».

### Міжнародны мотафестываль

**5—6 жніўня а 12-й на аўтадроме Нясвіжа (вул. Сноўская)** пройдзе міжнародны мотафестываль, прысвечаны 10-годдзю мотаклуба «Desperados MC». Даведкі па т.: (029) 372-90-98, (029) 771-43-98, (029) 349-44-49.

## ВЫСТАВЫ

### Міхал Савіцкі. «Хлеб жыцця»

**У Музеі гісторыі горада Мінска (вул. Рэвалюцыйная, 10)** можна пабачыць выставу «Хлеб жыцця» народнага мастака Беларусі Міхаіла Савіцкага.

На выставе — больш за 20 палотнаў мастака, створаных ім у апошнія 25 гадоў жыцця. Экспазіцыя складаецца з дзвюх частак: у першай дэманструюцца працы працоўнай тэматыкі, у другой — творы біблейскага цыкла. Выстава працуе да 5 верасня.

### Вялікія муміі Егіпта

**Да 12 жніўня ў Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь** пачаў працаваць пазнаваўча-забаўляльны праект «Вялікія муміі Егіпта», што ўключае аднайменную выставу і кароткаметражны гульнёвы фільм «Цар скарпіёнаў» у 3D-фармаце.

### Выстава Паліны Вітушчанкі

**Да 13 жніўня ў паб-клубе «Графіці» (зав. Калініна, 16)** працуе выстава Nebulae Паўліны Вітушчанкі з Літвы. Nebulae — астранамічны тэрмін, які азначае імглістасць, г.зн. міжзоркавае воблака, якое складаецца з гелію, пылу, плазмы і іншых матэрыялаў. Імглістасць часам бывае першапачатковай стадыяй узнікнення зоркі. Асноўная тэма карцін — менавіта рух, яго праблематыка.

### Знак вады

**Да 13 жніўня ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва** працуе выстава «Знак вады» — арт-праект мастака Васіля Касцючэнкі, які уключае шэраг жывапісных палотнаў пра ваду як асноўную субстанцыю жыцця.

### Жывапіс Ігара Карпава

**Да 19 жніўня ў Гістарычным музеі (вул. Маркса, 12)** працуе выстава карцін Ігара Карпава, мастака, што нарадзіўся ў Казані, вучыўся ў Санкт-Пецярбургу, а жыве ў Беларусі. Серыя карцінаў выставы была створаная ў 2003–2004 гадах. У кампазіцыях мастака нараджаецца вобраз свету ў мінулым і будучым, у якім жыве чалавек з яго жарсцямі, высокімі духоўнымі ідэаламі і непераадольным імкненнем да дасканаласці.

### «Італія, бацькаўшчына натхнення…»

**Да 4 верасня ў Мастацкім музеі (вул. Леніна, 20)** працуе выстава расійскага жывапісу са збору музея «Італія, бацькаўшчына натхнення…» У экспазіцыю выставы ўвайшлі творы Матвеева, Айвазоўскага, Рэймерса, Броннікава, Ге.

### Лялькі і іх жыццё

**Да 15 верасня ў «Гасцёўні Уладзіслава Галубка» (вул. Старавіленская, 14)** працуе праект «Лялькі». Сёлета гэта не толькі выстава, але і лялечныя спектаклі па матывах беларускіх народных казак.



### Выстава адной карціны: Уладзімір Стальмашонак «Слова пра Беларусь»

**Да 7 жніўня ў Гістарычным музеі** праходзіць выстава класічнага палатна Уладзіміра Стальмашонка. На карціне выяўленыя дзеячы нацыянальнай гісторыі і культуры: Еўфрасіння Полацкая, Кірыла Тураўскі, Францыск Скарына, Сымон Будны, Пётр Мсціславец, Сімяон Полацкі, Францішак Багушэвіч, Кастусь Каліноўскі, Алаіза Пашкевіч (Цётка), Максім Багдановіч, Якуб Колас, Янка Купала, Цішка Гартны, Уладзіслаў Галубок.

Уладзімір Стальмашонак стварыў гэтую кампазіцыю амаль 40 гадоў таму, у 1972 годзе, і яна да гэтага часу застаецца класікай дзякуючы арганічнаму спалучэнню манументальнасці з глыбінёй і шматзначнасцю сэнсу.

Аўтар злучае ў карціне рысы розных відаў мастацтва — станковага палатна, манументальнай размалёўкі або шпалеры, плаката. Выкарыстоўвае гратэск, не трацячы пры гэтым партрэтнай дакладнасці.

## ТЭАТРЫ

**4 жніўня**

**Сучасны мастацкі** — «Кастынг»

## КІНО

# Вандроўка да цэнтра Зямлі

**Journey to the Center of the Earth**
ЗША, 2008, каляровы, 93 хв.
**Рэжысёр:** Эрык Брэвіг
**Жанр:** Фантастычныя прыгоды для ўсёй сям'і

**Адзнака:** 5 (з 10)

Нехлямяжы прафесар Андэрсан з пляменнікам дый вучонай прыгажуняй адпраўляюцца правяраць тэорыю пра дзірку да цэнтра Зямлі. Кампаніі рызыкантаў наканавана пад зямлю праваліцца і знайсці там дзіўны свет.

Фільм Эрыка Брэвіга — наіўная кінафантастыка для ўсёй сям'і з кнігаю Жуля Верна ў якасці падарожнага даведніка. У эпоху зубадрабільных коміксаў так амаль не здымаюць. Але фільм — чыстыя прыгоды з дыяментамі ў пячорах, падземнымі дыназаўрамі, вогненнымі сінімі птушкамі і пасткамі для герояў.

Карціна абуджае амаль забытыя пачуцці: здзіўленне і захапленне. Суровы мэтр навуковай фантастыкі Жуль Верн сёння выглядае хатнім і мілым, а ягоныя прыхільнікі канчаткова пераўтварыліся ў рэтра-казачнікаў.

Стужка дзіўным чынам затрымалася на беларускіх экранах і дасюль збірае касу.

**Андрэй Расінскі**




27 жніўня ў Беларусі выступяць паўтара дзясятка этна-артыстаў з розных краін. Фестываль «Вольнае паветра—2011» пройдзе пад адкрытым небам на хутары Шаблі ля вёскі Малое Запруддзе (Валожынскі раён, 80 км ад Мінска ў бок Вільні, арыенцір — вёска Гародзькі).

Фестываль некалькі разоў адкладаўся цягам лета. Акрамя беларускіх выканаўцаў сучаснага фольку (Dzivasil, Akana, «Нагуаль»), выступяць музыкі з Расіі, Польшчы, Украіны, Літвы і Сербіі.

Музыкі будуць іграць ад 15.00 да 6.00 раніцы. Квіткі каштуюць 20 тысяч рублёў (уваход) ці 50 тысяч (уваход + кемпінг). Дзе купіць: у бары «Малако» (пр. Незалежнасці, 37а), каса КЗ «Мінск» (вул.Кастрычніцкая,5), пераход ст.м. «Пл.Якуба Коласа» (выхад да Філармоніі), а таксама ў сістэмах kvitki.by і ticketpro.by. Даведкі па т.: (029) 655-55-96, (033) 655-55-96.

# У Мінску з’явіцца першы хостэл

Маладзёны-прыватнікі гатовыя заняць пустое месца на рынку.

У сярэдзіне жніўня ў Мінску з’явіцца трохпавярховы хостэл з лазняй, більярдам, кікерам, пінг-понгам і ўтульным дворыкам для barbecue-parties. Важна, што за яго стварэннем стаіць не які-небудзь бізнес-гігант, які прачухаў карыснасць развіцця гатэльнага бізнесу малых формаў, а ўсяго некалькі маладых хлопцаў і дзяўчат амаль без досведу працы ў гэтым кірунку.

«Асцярожна, у фарбе не запэцкайцеся», — папярэджвае Уладзімір, калі мы заходзім у сярэдзіну катэджа, які праз некалькі тыдняў зробіцца месцам прытулку «паважаных гасцей сталіцы». Уладзімір — адзін з гаспадароў хостэла і ўвогуле заснавальнік гэтага руху на беларускай зямлі. Яшчэ некалькі гадоў таму ён быў апантаны ідэяй стварэння сеткі малабюджэтных гатэляў у краіне і летась у лістападзе зрабіў першы хостэл у родным Віцебску.

Праіснаваўшы восем месяцаў у выдатным памяшканні ў самым цэнтры горада, хостэл змяніў лакацыю, але не страціў канцэпцыі: танна, утульна, «па-хатняму» і з фоткамі вядомых джазменаў на сценах. Назва таксама засталася старая — хостэл «Jazz». Ці з’явіцца ў мінскага хостэла імя яго старэйшага віцебскага брата — пакуль невядома. Хоць да адкрыцця і засталіся лічаныя дні, хлопцы ўпарта працягваюць думаць над назвай, лагатыпам і канцэпшнам — дзесьці ў перапынках паміж фарбаваннем сценаў, зборкай двух’ярусных ложкаў і ўсталяваннем сантэхнікі.

Сяргей — другі заснавальнік мінскага хостэла — знайшоў Уладзіміра праз інтэрнэт і прапанаваў муціць нешта аналагічнае ў Мінску. Цяпер ён працуе на заводзе па перапрацоўцы металалому, яго жонка Зоя — у адным з банкаў. Калі хостэл адчыніць дзверы, звычайную працу давядзецца кінуць і пачаць займацца ўлюбёнай.

Рамонт у самым разгары. У калідоры пахне распушчальнікам. У пакоі, які хутка будзе гасцёўняй, зваленыя ў кучу матрацы, паліцы і плазменны TV. Экскурсія па хостэле займае паўгадзіны. Першы паверх — тая самая гасцёўня, некалькі VIP-румаў на два ці тры месцы, кухня, прыбіральня. На другім паверсе — пакоі па 5, 6 і болей ложкаў. Плюс некалькі WC з душавымі кабінамі.

А вось на трэцім паверсе самае цікавае — прасторны пакой, дзе можна праводзіць імпрэзы, выставы ці семінары. У асобным памяшканні — лазня (паліцца дрывамі) з невялічкім басейнам і пакой адпачынку з більярдным сталом. Усё гэта таксама можна будзе арандаваць па вельмі «памяркоўных» прайсах. Напрыклад, гадзіна ў лазні будзе каштаваць 50 тысяч.

«Катэдж быў у добрым стане, але, як толькі пачалі рамонт, высветлілася, што працы тут нашмат больш, чым здавалася. Тры тыдні ўжо тут корпаемся, — распавядаюць гаспадары. — Усё робім уласнымі сіламі, абыходзімся без таджыкаў. Wi-Fi правялі, засталося зрабіць, каб ён лавіў тут паўсюль».

Самае цікавае высвятляецца трохі пазней. Ніхто з гаспадароў асабліва не вывучаў досвед існавання хостэлаў у Еўропе. «Ну, мне даводзілася аднойчы жыць у хостэле ў Беластоку, трохі знаёміўся з тым, як гэта робіцца ў Расіі, Украіне», — гаворыць Уладзімір.

Фішка мінскага хостэла будзе яшчэ ў існаванні спецпрапановаў для іншагародніх студэнтаў. «У нас можна будзе здымаць ложак за суму каля 100 долараў на месяц, — дадае Уладзімір. — Калі месца ў інтэрнаце не далі, а здымаць куток у бабулі не цягне — хостэл, здаецца, нядрэнны варыянт. Тым больш што за камуналку плаціць не трэба ды інтэрнэт бясплатны».

Уладзімір з паплечнікамі ўпэўнены, што праз год-другі хостэльны фармат зробіцца звыклым і ў нашай краіне ведамасных гатэляў і таннага бензіну. Таму для іх важна проста быць першымі. Але ж гэта і ёсць самае складанае.

**34mag.net**

Трохпавярховы будынак прыме турыстаў ужо ў гэтым месяцы.




Хостэл размесціцца ў прыватным сектары па вуліцы Мазырскай, недалёка ад Даўгінаўскага тракта.




Тыповы хостэл. У цеснаце, ды не ў крыўдзе.



НАДВОР’Е

## Жнівень будзе на градус цяплейшы

У жніўні ў Беларусі будзе на градус цяплей за кліматычную норму, якая складае 16—17°С. Такі прагноз дала галоўны сіноптык Рэспубліканскага гідраметэаралагічнага цэнтра Вольга Фядотава. Колькасць ападкаў у сярэднім па краіне чакаецца ад 62 да 89 мм.

Паводле слоў Фядотавай, калі першы тыдзень жніўня парадуе жыхароў Беларусі сонечным скандынаўскім антыцыклонам, то другі не абыдзецца без кароткачасовых навальнічных дажджоў, якія прынясуць паветраныя масы атлантычнага паходжання. Пры гэтым тэмпература паветра ноччу будзе вагацца ад 8 да 13°С, часам да 16—17°С цяпла. Днём чакаецца ад 18 да 24°С, у паўднёвых раёнах да 25—28°С.

У другой палове месяца перыяды сонечнага надвор'я могуць чаргавацца з халаднаватымі дажджлівымі і пахмурнымі днямі. Пры гэтым на працягу шасці-васьмі дзён у другой палове месяца пройдуць кароткачасовыя дажджы, тэмпература паветра таксама будзе вагацца даволі значна: у начныя часы чакаецца ад 7 да 15°С, у найбольш халодныя ночы ў канцы месяца магчыма паніжэнне тэмпературы да 3—5°С. Дзённая тэмпература будзе змяняцца ад 15 да 25°С цяпла, часам на поўдні да 28°С. У асобныя пахмурныя дні будзе халадней — 13—14°С.

**БелаПАН**

АДУКАЦЫЯ

## Школьнікі-мільянеры

На зборы ў школу можна зрасходаваць да 2 мільёнаў рублёў.

Спецыялісты Мінгарвыканкама разлічылі, колькі трэба сродкаў, каб сабраць дзіця ў школу. Лічбы прывёў начальнік упраўлення гандлю і паслуг Мінгарвыканкама Андрэй Новікаў.

Падлікі вяліся па дзвюх катэгорыях. Так, экіпіроўка школьніка малодшых класаў будзе каштаваць ад 500 тысяч да 1 мільёна 260 тысяч рублёў. На зборы старшакласніка давядзецца зрасходаваць ад 630 тысяч да 2 мільёнаў рублёў.

Пры гэтым Новікаў нагадаў, што зараз і да 10 верасня на тавары школьнага асартыменту распаўсюджваецца пагадненне аб аптымальных памерах гандлёвых надбавак. Магазіны абавязаліся не прымяняць на тавары гэтай катэгорыі гандлёвую надбаўку вышэйшую за 20%. Дагэтуль «сярэднеўзважаны ўзровень гандлёвай надбаўкі на гэтую таварную групу складаў 27–28%», удакладніў Новікаў. У выніку, паводле слоў прадстаўніка гарвыканкама, пакупнікам даецца скідка ў 2 мільярды рублёў ад агульнай сумы прададзеных школьных тавараў.

**БелаПАН**

ЗДАРОЎЕ

## На плошчы Незалежнасці нельга будзе паліць нават у кавярні

У сталіцы абяцаюць стварыць «зоны, свабодныя ад тытуню».

Адміністрацыя Маскоўскага раёна Мінска прыняла спецыяльнае рашэнне: на плошчы Незалежнасці паліць забаронена. Прычым не толькі на вуліцы, але і ва ўсіх будынках: Доме ўрада, двух ўніверсітэтах, прыватных кавярнях ды рэстарацыях.

Ініцыятар забароны — Міністэрства аховы здароўя. Ужо некалькі гадоў яно патрабуе ад муніцыпальных уладаў стварыць бар’еры такога кшталту.

Чыноўнікі таксама ўдакладняюць, што за апошнія чатыры гады назіраецца негатыўная тэндэнцыя павелічэння долі тых, хто спрабаваў паліць, сярод дзяцей і падлеткаў. Дасягнуты дастаткова высокі ўзровень пасіўнага палення сярод насельніцтва. Больш за палову апытаных вымушаныя быць побач з людзьмі, якія паляць, — дома, у гасцях, на працы.

Курцоў на плошчы Незалежнасці будуць здымаць на відэакамеру і штрафаваць. У рэгіёнах жа сітуацыя без зменаў — антытытунёвая прапаганда застаецца на паперы. Дарэчы, паводле апошніх звестак Міністэрства аховы здароўя, у Беларусі паліць больш за 3 мільёны чалавек.

**Паводле Belsat.eu**

СПОРТ

## У Беларусі на футболе пачалі працаваць сцюарды

Яны ахоўваюць парадак на стадыёнах замест міліцыі, прысутнасць якой правакуе фанатаў.

Інстытут сцюардаў упершыню быў апрабаваны падчас гульні чэмпіянату краіны «Віцебск—БАТЭ». У Беларусі ўкараняецца еўрапейская сістэма аховы правапарадку на футбольных матчах, калі сумесна з паліцыяй гарантаваннем бяспекі займаюцца добраахвотнікі — сцюарды. Беларуская міліцыя ў сувязі са шматлікімі зваротамі заўзятараў таксама вырашыла пайсці насустрач і скараціць колькасць сваіх супрацоўнікаў падчас матча. На футболе ў Віцебску сумесна з міліцыяй дзяжурылі 30 сцюардаў.

Яны прайшлі спецыяльную падрыхтоўку і ведаюць, як дзейнічаць у надзвычайных сітуацыях і ў выпадках хуліганскіх выхадак фанатаў. Да дзяжурства дапушчаныя толькі мужчыны не старэйшыя за 40 гадоў атлетычнага складу. Пазнаць іх можна будзе па спецыяльнай форме.

**ЯВ, паводле БЕЛТА**




**Мінчукі карыстаюцца апошняй магчымасцю асвяжыцца ў фантане. Летні сквар патроху спадае.**




**У сераду ў Вільні на адну з ахоўных аўтастаянак, дзе стаяць аўтамабілі парушальнікаў, ледзь не трапіў вельмі рэдкі і дарагі экзэмпляр. Гэта ўпадабаны мільянерамі аўтамабіль Ferrari 458 Italia, цана якога пачынаецца ад 200 тысяч даляраў. Каля 15 гадзін паліцыя Вільні атрымала некалькі паведамленняў ад незадаволеных гараджан пра тое, што на праспекце Гедыміна, на веласіпеднай дарожцы, стаіць Ferrari з беларускімі нумарамі. Патрульныя, што прыехалі, хацелі завезці суперaўтамабіль на ахоўную стаянку, але неўзабаве з'явіўся ўладальнік машыны. Яму выпісалі штраф 50 літаў (20 $).**




**Такі прывабны вобраз беларускай мадэлі падгледжаны ў Мінску.**




**Аб'екты да чэмпіянату свету гатовыя, а суб'екты? Ля «Мінск-Арэны» ўжо стаіць рэклама сусветных спаборніцтваў па хакеі. Тым часам у свеце рэгулярна чуюцца заклікі да арганізатараў не праводзіць чэмпіянат у Беларусі з прычыны палітычных рэпрэсій.**

## Анекдоты

* * *

Усе дaішнікі пытаюцца: «Ты піў?» І хоць бы адзін пацікавіўся: «Ты еў?»

* * *

Пасля заявы Надзеі Ермаковай пра тое, што ў яе даляраў няма і яны ёй не трэба, Ермакову паставілі кіраваць установай, дзе даляраў менш за ўсё.

* * *

Лукашэнка заслугоўвае Нобелеўскую прэмію ў эканоміцы — за дасягненні ў эканоміцы, Нобелеўскую прэмію Міру — за ўмацаванне правоў чалавека ў асобна ўзятай краіне і Нобелеўскую прэмію па гісторыі — за «Пецярбургскі перыяд жыцця Ф.Скарыны».

* * *

Наконт прапановы старшыні ФПБ Леаніда Козіка даць Лукашэнку Нобелеўскую прэмію ў галіне эканомікі, старшыня Нацбанка Надзея Ермакова сказала наступнае: «Навошта нам гэтая валюта?»

* * *

— Ты хто?
— Анёл!
— А чаму з рогамі і хвастом?
— Ты не разважай, а налівай!

* * *

— Учора глядзеў тэлік. Усе першыя асобы такія сур'ёзныя, штосьці вырашаюць, а вакол як быў бардак — так і ёсць ...
— Дык яны ж у тэлевізары жывуць!

## «НН» сто гадоў таму

**Барысаў.** Разбіралася тут у судзе справа аб забойстве; вінавацілі двух. Суд аднога засудзіў, а другога апраўдаў. Тады абаронцы асуджанага заявілі старшыні, што прысяжныя суддзі былі апраўданым падкупленыя. Вось сёлета была ў судовага следчага вочная стаўка. Апазналі чатырох, якіх следчы адразу ж загадаў арыштаваць. Благая справа і пахне катаргай.

**«НН». № 29. 1911.**

**Газета «Беларускі Час» мяркуе**, што Ганчара і Захаранку пазбавілі жыцця спецыяльным пісталетам для выканання смяротных прысудаў, а Завадскі можа быць жывы.

**«НН». № 30. 2001.**

**Наша Ніва**
незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

**галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:**
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

| | |
|---|---|
| сакратарка рэдакцыі | Наста Бакшанская |
| шэф-рэдактар | Андрэй Дынько |
| галоўны рэдактар | Андрэй Генадзевіч Скурко |
| заснавальнік | Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы» |
| выдавец | Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы» |

**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:**
**220050, Мінск, а/с 537**
**Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.**
**E-mail: nn@nn.by**
**On-line: www.nn.by**

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

**Наклад 7327.** **Газета выдаецца 48 разоў на год.**
Нумар падпісаны ў друк 23.00 02.08.2011.
Замова № 3663.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
ISSN 1819-1614
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12